Зінаіда Дудзюк

# Так і не



Вершы

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1993



Напэўна, нешта могуць нашы вершы,
Калі лягчэе сэрцу ад радка.
«Ты мой адзіны, ты мой самы лепшы» —
Шэпт, як малітва, чуецца ў вяках.
Ты на яго, як на імя, азвешся,
І зблытаюцца дні ў календары.
«Ты мой адзіны, ты мой самы лепшы»,—
За мною сёння нехта паўтарыў.

# СТВАРЭННЕ НАШАГА СВЕТУ

Быў першы дзень
неспадзяваных слоў.
Знаёмства на адлегласці —
самотай.
Вось ты прыйшоў,
жывы, з няясных сноў,—
блакіт вачэй
і валасы, як лотаць.

Быў дзень другі:
чужання горкі смак,
жадання
не парушыць лад спакою.
А ўжо душа
цягнулася сама
уладна зліцца
з роднаю душою.

Быў трэці дзень,
калі маю далонь
адагравала я
ў тваёй далоні.
Яднала нас
міжзорнае святло
сугучнасцю
узнёсла і няўлоўна.

Чацвёрты дзень
ствараў нас дабрынёй,
праніклівай спагадай,
разуменнем.
Мы прывыкалі
да сваіх імён —
нязвыклых
у нязвыклым вымаўленні.

Быў пяты дзень
з любові, з нематы,
як свет, дзе можна
звонкай птушкай лётаць.
Прыжмуру вейкі —
і скрозь цемру — ты,
блакіт вачэй
і валасы, як лотаць.

Быў шосты дзень,
расстайны, у жальбе,
нязгаснасцю
прывідна абнадзеены.
Балюча адплываю ад цябе,
нібыта мацярык,
тугой аддзелены.



Цябе мне ўбачыць толькі з дальняй
зоркі,
Куды ўзлятаю пасярод начэй.
І Косы Веранікі тонкім шоўкам
Спагадліва не засцяць мне вачэй.

Як іней, на акне тваім гардзіны,
Няхай агонь нязмушана гарыць.
Зноў буду я з табою, мой адзіны,
Пакуль не згаснуць зоры, гаварыць.



Перахоплены позірк, дыханне...
Не шкадую ні дзён, ні гадоў.
Жыць надзеяй на свята спаткання
Летуценнаю і маладой,
Адплываць безразважна за мрояй,
Безаглядна спяваць пра вясну,
Быццам лепшы мой час за гарою,
Я пакуль што яго толькі сню.
Не ўцячы ад таемнага болю,
Поўнай мераю зведаць без слёз.
І за тое ўжо ўдзячна я долі,
Што не засціць у будзень нябёс.

* * *

На многім змагла я паставіць крыжы,
Акрэсліла долю мяжою.
Ты — камень, які я нашу на душы.
А што ж у цябе за душою?



Адарыла пяшчотай світанне,
Запаліла трывожны агонь.
Ды няма ў нас ніякае тайны
Ад нябёсаў, бяроз і снягоў.

Буду ў вочы глядзець з заміраннем,
Буду сэрцам гарэць на бяду.
І няма ў нас ніякае тайны
Ад радкоў і натомленых дум.

Прамільгнуць ці гады, ці гадзіны,
Каб адхукаць у пустцы душу.
Наша тайна мо ў гэтым, адзіны,
Што світальны агонь не тушу.



Знайдзі мне новае імя,
Каб з ім забылася мінуласць,
Дзе разам нас яшчэ няма
За часам, далеччу і гулам.

Такая шчодрая зіма.
Сярод снягоў крыніцы ўсмешка.
А ты шукаеш мне імя
І лепіш словы, нібы снежкі.

Як люба адклікацца мне
На твой ласкавы родны голас,
Нас нешта ў долі абміне,
Не размінёмся мы ніколі.



Пад коламі шалее магістраль,
Маркоцяцца вясновыя нябёсы,
Я забываю адзіноцтва страх
І давяраюся табе і лёсу.

Насустрач — горад, у бясконцасць — час,
Сустрэчаю азораны гадзіны.
Вачам гаворку лёгка распачаць,
Прамовіць вуснам сцішана: «Адзіны...»

Нам паасобку па жыцці прайсці —
Адзіны боль няўмольнага расстання.
І праз душу душою прарасці,
Каб жыць адзіным шчасцем і каханнем.



Асцерагуся варажыць на лёс.
Мне добра, што ты ёсць на гэтым свеце,
Што змог мяне сярод жанчын прыкмеціць,
Асцерагуся варажыць на лёс.

Якая сінь зышла на нас з нябёс!
Якая радасць з будучыні свеціць?
Мне добра, што ты ёсць на гэтым свеце,
Асцерагуся варажыць на лёс.



Спяваеш ты, і голас твой
Мяне трывожыць і хвалюе.
Яшчэ туга на нас палюе,
Прыціхла ніцаю травой.

Чакаеш, чым душа мая
На спеў твой ціхі адгукнецца.
А я маўчу, знямела сэрца.
А песня льецца, як бруя.

Разлуку зычыць песня нам.
Ад горкіх словаў халадзею.
У смутку я спяваць не ўмею.
Мая бяда, мая віна...



Наш новы дзень азмрочаны расстаннем.
Я вечна буду ўслед табе глядзець.
Няхай табе на ўсе расчараванні
Стае святла высокага надзей.

Да існага ад стомы існавання —
Нялёгкая дарога між людзей.
Я бласлаўляю ўсе расчараванні,
Што вырастаць умеюць да надзей.

І будзе вернасць святкаваць вяртанне
Ў будзённасці і звыкласці падзей.
Перакладаю золь расчараванняў
На музыку чароўную надзей.



Кахаю. Кахаю... Насуперак лёсу,
Насуперак думе і смутку цяжкому.
Лясы адсняваюць, вятры адгалосяць,
Каб нашага шчасця не зычыць нікому.
Як жыць ад сустрэч і да вечных расстанняў?
Жаданнем і марай згараць у пустэчы.
Ці ёсць апраўданне такому каханню,
Якое ратуе, якое нявечыць?..



Загадкавая вершаў апантанасць,
Дзе гукі то спяваюць, то грымяць.
Ва ўсіх маіх радках зашыфравана
Тваё найдаражэйшае імя.



Які ўжо раз за восень азярына
Зацягнецца ільдом і растае,
То клопаты прывычныя адрыне,
То зноў ёй вольнай хвалі не стае.

А лебедзі злятаюцца да краю,
Дзе зеўрае настылая вада.
І я сябе за чэрствасць дакараю,
І птушак мне да роспачы шкада.

Кармлю з рукі бялюткую лябёдку,
Кажу ёй словы, поўныя цяпла.
Адграюся радасцю салодкай,
Нібыта ад самотнасці ўцякла.



Між «не» і «так» трываюць немату.
Між «не» і «так» чаканне спасцігаюць.
А ты мяне пяшчотай паратуй,
Калі ад пачуцця свайго ўцякаю.

Загавары мой недавер і страх.
Ці зашапчы, каб словаў не дачуцца.
Каханне горш ад самых моцных крат
Трымаць умее ў вязніцы пачуццяў.



Тугу адганяю гаркавую,
Насустрач надзеі лячу,
«Скажы мне што-небудзь ласкавае»,—
З пяшчотным даверам шапчу.

Ласкавая ластаўка высака,
Дзе стыне асенні матыў,
Атава змарнелая высахла,
І бераг чакання астыў.

Хаджу заінелымі травамі,
Апалае лісце тапчу.
«Скажы мне што-небудзь ласкавае»,—
З пяшчотным даверам шапчу.

Наперадзе морак з завеямі,
Сцюдзёная скруха дарог.
Я сонца ахутваю веямі,
Каб дзень цеплыню прыбярог.

Калі на вясновай прataліне
Прачнуцца пралескі гурмой,
Папросіш: «Скажы мне ласкавае»,—
Не выстуджу ласку зімой.



Залётны вецер стукае ў акно,
Яму ўсё роўна, дзе пераначуе.
Тушыць агонь ці запалаць агнём —
Хоць так, хоць гэтак — болю не адчуе.

Свавольны ён. І ні адна з прыгод
Яму не будзе лішняю ніколі.
Яму да сэрца лёд і крыгаход,
Яму да сэрца нетры і прыволле.

Ён азірацца зроду не прывык,
А я цягну, цягну мінуласць следам.
Гады мае, нібы пусты браднік,
Дзе ўлоў адзін: самота, стома, беды.

* * *

Пішу табе прачулыя радкі,
Але ты іх ніколі не пачуеш.
А смутак — галубок з маёй рукі,
Пад вокнамі тваімі заначуе.

Не спачувай яму і не шкадуй.
Ён твой спакой ніколі не азмрочыць.
З ім сны твае шчаслівы след кладуць
На спусташальна-восеньскія ночы.



Аднойчы гэта ўжо было,
Што смерць зацягвала сіло,
Прасіла йсці за ёю ўслед,
Каб сэрцу смуткам не смылець,
І абяцала вечны рай.
Памры і болей не ўмірай.
Ні звад, ні бедаў, ні пакут,
Увесь цяжар пакінуць тут,—
І кроч улегцы ў небыццё...
Тады перамагло жыццё.

Аднойчы гэта ўжо было...
Зноў згасла дзён маіх святло,
Настала ноч тугі сляпой,
Смерць зноўку кліча за сабой,
Так лёгка крок у крок ступіць.
Жыць ці не жыць?..



Самота скупая
мой хорам вартуе,
хаця спагадае,
але не ратуе.

І я беспрытульна
між зор халадзею,
і жывіць мяне,
і трымае надзея.

Шчаслівая, што
да лятункаў прыкута.
Хто страціў надзею,
той выпіў атруту.



Дзе возера закута белатой
І чорны лес па цеплыні сумуе,
Душа мая вавёркай залатой
На соснах нарачанскіх зазімуе.

Сябе ля дзіўных згадак будзе грэць,
Атрутную самоту піць начамі,
Маруднымі гадзінамі старэць,
Кахаць і ціха гінуць у адчаі.



Ты — песня,
якую складаю
і крэслю.

Не адагрэць мне
твой хорам рукамі,
ты — камень.

Зыходзіцца свет
на табе,
як на першапрычыне.

Ты — сонца,
наблізіць цябе
немагчыма.

Ты — песня,
з якою загінуць,
а мо і ўваскрэснуць.

Ты — камень,
халодны і дзікі,
сярод сутарэнняў.

Хварэю табою,
як дрэва
зламаным карэннем.



Я прэч ганю назойлівыя згадкі,
І той агонь, і той гарушчы дым.
Мая душа, нібыта кацянятка,
Сагрэлася пад позіркам тваім.

Не буду плакаць і маліць патолі.
Каханню спачувае толькі смерць.
Перада мной жыцця сівое поле,
Якое не пад сілу мне апець.

Пайду туды, дзе далягляд сінее.
Мінулае за мною — нібы цень.
Таму што я забыць цябе не ўмею,
У небе сонца весела цвіце,

І ад таго збіраюцца грымоты,
Маланкі ніжуць росы на траву.
Я пра цябе забуду потым, потым...
Яшчэ крыху мінулым пажыву.



Так перад смерцю адпускае боль.
Мне сёння лёгка ў золкае прадзім'е
Не вар'яцець у трызненні табой,
Не жыць у марах, бы ў атрутным дыме.

Не пазбягаць ні родных, ні сяброў,
Не цешыцца халоднай адзінотай.
Спакой — найлепшы ад усіх дароў,
Калі ўжо не чакаеш цуду ўпотай.

Але здаецца: недзе ў вышыні
Ёсць нехта злосны, хто бяды не знае
І без папрокаў горкіх і віны
Маё жыццё бязлітасна зжывае.



Апраўданне ёсць злу і граху
У адзінай пакуце — каханні.
А на нашым на Млечным Шляху
Аніякіх няма скрыжаванняў.
Ні сустрэч, ні надзей, ні спагад.
Ціхі космас. Трывожная тайна.
Ранняй восенню Шлях наш пагас —
Добрай згадкай яго прывітайма.

І аддзячма за ўсё, што было.
На жыцці — адзіноты і шчасця.
А ў душы не згасае святло,
Толькі долі з яго мне не прасці.
Зноў бяссонне маё будзе днець,
Каб кацілася сонца да лета.
За паўтысячы вёрст у акне
Ноччу свеціць твая цыгарэта.



Горад асенні, горад настылы,
Льдзіна пасцелі выстудзіць жылы,
Нібы ў магіле на самым дне,
Холадна мне.

Ці засынаю, ці паміраю?
Снам ратавальным сябе давяраю.
Хворае сонца ў акно зазірне.
Холадна мне.

Доўжыцца час без патолі і веры,
Выстудзіў холад людзей недаверам.
Даўняя згадка святло адамкне.
Холадна мне.

Дзе яна, тая пара залатая?
Час анічога назад не вяртае.
Дзякуй, хоць некага восень міне.
Холадна мне.

## ВЫРАЙ

Збіраюцца птушкі сям'ёю вялікай,
Іх плач развітальны ў сэрцы смыліць.
Навошта мяне ты ў нябёсы паклікаў,
А потым пакінуў на грэшнай зямлі?

Куды я няўхільна душой адлятаю,
Якая старонка мне зычыць вясну —
Як страшную тайну я гэта хаваю
І толькі начамі самотнымі сню.

Няхай шчаслівейшыя будуць другія
На гэтай зямлі, дзе імгла ды падман.
Завесілі свет мой ліўні даўгія,
Дарогі мае замятае зіма.



Напэўна, я сябе перажыла,
Што не баюся адзіноты хворай.
Мяне не звабіць прывіднасць святла.
Я не хачу ні з кім дзяліцца горам.

І не чакаю радасці здаля,
Не спадзяюся на чужое шчасце.
Былыя мары болей не баляць,
Бо долю ў абяздоленай не ўкрасці.

# БЕЛАРУСЫ

Уладны росчырк царскага пяра —
І стаў народ насельніцтвам правінцый
Без мовы, без культуры. І пара
Яму ў народах іншых растварыцца.

Няхай сячэ дрымучыя лясы,
Палюе звера для паноў вяльможных,
Яго жыццё ля плуга і касы,
Халоп нічога іншага не можа.

Але не зніклі з назвай Беларусь
Па царскаму загаду беларусы,
Што песнямі распальвалі зару
І ткалі мрояў тонкія абрусы,

Што з косамі выходзілі на бой
Супроць няпраўды горкай і нядолі,
За бунт плацілі ўласнаю крывёй,
Каналі і раджаліся на полі.

І пад ярмом жадалі дзень вітаць,
І весялосць узносілі над скрухай.
Прыходзьце нашы казкі пачытаць,
Прыходзьце песні нашыя паслухаць,

Пакуль жывуць бабулькі і дзяды,
Што захавалі гэты скарб вялікі.
А раптам забяруць старых клады,
Чым будзем жыць сярод краін шматлікіх?

## ЧДУ [1]

Чытаю «раёнку» — сляза на вачах
Ад гэтай пачварнай абрэвіятуры.
Плятуцца ў артыкуле словы панура,
Што ўсіх паратуе і вылечыць час.

Чарнобыльскім горам азмрочаны край,
Узровень часовы, таму дапушчальны,
Змірыліся, нібыта ён даравальны,
А смерць і нядужасць дарма дакараць.

Усё дапушчальна, калі дапускаем:
Разбой і нікчэмнасць, убоства і хлуд.
І горбіцца зябка пад доляю люд,
І ходзіць між намі не мечаны Каін.

На колькі пакутных разлічаны год
Часовасць жыцця і часовасць хваробы?
Здаля пагражае часовасць народу,
Гісторыя помніць і гэткі зыход.

Нахабна запоўнілі лёсаў працяг
Атрутныя думкі, атрутныя словы.
Бяда, што і сёння ад крэслаў часовых
Залежыць заўсёднасць зямлі і жыцця.

[1] ЧДУ — часова дапушчальны ўзровень радыяцыі.



Не напісаць з замілаваннем верш
Пра мой Дняпро, стамлёны і агорклы.
Чым ён яшчэ, атручаны, жыве
Пад позіркам біблейскай Чорнай зоркі?

З жалобаю схіляюся над ім.
Быў вечны, нібы бог, а памірае.
Ні крыўды і ні зла не прытаіў,
Нікога і нічым не дакарае.

Існуй далей, гадуйся, чалавек,
Загінеш хутка пад уласным смеццем.
Я перажыць паспела столькі рэк,
Што ўжо жыцця страшуся, як бяссмерця.

І словам я не здольна ажывіць
Панішчаныя нашыя святыні,
Хіба вады атрутнае папіць,
Няхай душа знябудзецца, астыне...



Не прыляціць у мой куток зязюля,
Не абнадзеіць і не ўсцешыць слых.
Счарнелыя дубы ў гаях паснулі
Без гоману і песень веснавых.

Я тры гады яе дарма чакала,
Перасяленку, здрадніцу, сястру.
А мо яна ад стронцыю сканала
Сярод птушыных, патаемных скрух.

Піла расу з атрутнага лісточка,
Хавалася ў атручаных карчах.
Зязюльчын лён. Зязюльчына сарочка
На смерць падрыхтаваная не ў час...

# РОДНАСЦЬ

Памерла б я, напэўна, сіратою,
Каб не мае названыя браты,
Што агарнулі ласкаю святою,
Што затулілі ад сляпой слаты.

Яны мяне вярталі да былога,
Дзе каляіны горычы і слёз,
Яны мяне вялі па тых дарогах,
Дзе прывіды паўстанцаў ля бяроз.

Дзе селішча Касцюшкава нямее
І спіць валун, нібы стары парог,
Дзе белы замак між палёў — камеяй,
Што і ў руінах прыгажосць збярог.

Дзе цела хана пад Гарою Лысай
Хавае тайну Залатой Арды.
Братоў размовы дзіўнымі здаліся,
Не ўсё я зразумець магла тады.

Ніхто не павучаў мяне заўзята,
Ніхто мне запаветаў не даваў.
Ісці мне цяжка, хоць і ўслед за братам,
Дзе забыцця высокая трава.

Мне болей непатрэбна дапамога.
Збіраюся ў нязнаны новы шлях.
Калі малюся на якога бога,
Дык на цябе, радзімая зямля.



Наступнік мой, што на мяжы стагоддзяў
Народзішся ў які, не знаю, дзень,
Будзённасць са святочнасцю пагодзіш
І станеш найсвятлейшаю з падзей.

Збярэцца род каля тваёй калыскі,
Каб выбраць мілагучнае імя.
Пачнуць знаходзіць падабенства рыскі
Да родзічаў, якіх даўно няма.

Табе расці пад матчыным наглядам,
А ёй пісаць заяву на дазвол,
Каб мову продкаў з ласкі ці загаду
Мог вывучаць ты ў лонах рускіх школ.

Шмат хто ўжо ў нас бязмоўем пакараны,
Глухой душы бязмоўе не баліць.
Табе вялікі скарб падараваны,
Але яго без мовы не адкрыць.

Той скарб у песнях нашых і паданнях,
У мудрых думах слаўных песняроў,
У васільку, у галашэнні кані,
У гаманлівай рэчцы пад гарой.

Наступнік мой, што на мяжы стагоддзяў
Народзішся ў які, не знаю, дзень,
Няхай цябе бязроднасць абыходзіць
Між сваякоў і між чужых людзей.

## ЗАБІТАЯ ЗЯМЛЯ

Бяздумна, не са зла, а з раўнадушша
Забіў зямлю чыноўны чалавек.
Забіў, як забіваюць часам душы —
Няўжо не адрадзіцца ёй павек?

Трымаючы сваё злачынства ў тайне,
Ён уцякаў ад смерці і бяды.
Ды спела ў суайчыннікаў пытанне:
«Хто ты такі? Адкуль ты? І куды?»

Чужых судоў баяцца людзі зроду,
А ёсць яшчэ суд над самім сабой.
Як паглядзець у твар свайму народу,
Калі прынёс бяду яму і боль?

І нават жменьку глебы той любімай
Не возьмеш, каб сыпнулі на труну:
Зямля — атрута, бо яе забілі.
Смерць — кожнаму, хто б глебу ні крануў.

Нашто табе твой, чалавеча, розум,
Калі за д'ябла ў дзеях горшы ты?
А чалавек у ваяўнічай позе:
«Я ўзводзіў да наступнага масты!..»

Заўжды злачынца прагне апраўдацца.
І вусцішна ў сяўбе ды малацьбе.
Як на шляху да шчасця ды багацця
Нам бараніцца ад саміх сябе?

## РЭАБІЛІТАЦЫЯ

Пад магіяй магутных галасоў
І дужых рук вяршыліся няшчасці.
Вяртае памяць боль былых часоў,
Каб у грахі мінулыя не ўпасці.

Туман няпраўды сеяў напаказ
Прыгожае гісторыі аматар.
Так прыхарошыць можа мерцвяка
За плату адпаведную анатам.

О цемрашальства навуковых душ,
Што ў бажаство ўзвяло прагрэс тэхнічны,
Ужо не раз прыклікала бяду
Нядбайства ваша на куток крынічны.

Нам хлеб надзённы цяжка здабываць,
Але каб змыць віну сваю пад небам,
Падумаем, як рэабілітаваць
Былую рэчку, зблочаную глебу.

Святочнасць працы як спасцігнуць нам
У заскарузлых думах, сэрцам леным?
Вярнуць хачу мазолістым рукам
Забытыя майстэрства і сумленнасць.

# ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ БАЛАДА

Маўчала вёска
Месяц, два і тры...
Самотная, плыла
Глухім сусветам.
Спякотныя
Бяздомныя вятры
Ў садах збівалі
Спелыя ранеты.

За лета
Сцежкі зараслі травой,
Як забыццём.
Нідзе жывога следу.
На плот узлез,
Прывабна цвіў павой,
Чакаў,
Калі гаспадары прыедуць.

Маўчалі хаты.
Сцяміць не маглі,
Што людзі
Іх пакінулі навечна.
Зацягваліся
Плесняю вуглы
Без ласкі,
Без любові чалавечай.

Маўчанне прыгнятала,
Нібы смерць.
І, каб пазбыцца
Нематы хоць неяк,
Паспрабавалі
Весніцы запець
Аднойчы
Ў непраглядную завею.

Азваўся плот,
І грукнула вядро
У жураўля
Ў руцэ заледзянелай.
Хоць ні душы
Жывое не было,
Стагнала вёска,
Плакала,
Рыпела.

Яна жыла,
Нібы ў трывожным сне...
А як ацiхла кудаса
Пад вечар,
Акрыў яе
Маўчаннем белы снег,
Сышліся хаты
На нямое веча.

# ФУНІКУЛЁР

Стальны вагончык рухаўся на неба,
Аблокі засцілалі краявід.
Унізе — сосны і надзейнасць глебы,
А тут — мароз і дрыжыкі ў крыві.

Куды і хто вядзе нас над бяздоннем,
Якім рукам даверылі свой лёс?
Каго спытаеш у нябесных гонях,
Калі адзін туман плыве з нябёс.

І Сатана, развёўшы пасмы стыні,
Смяецца ў твар: «Вось воля і палёт!
Тут вашы замарожаны святыні,
Ідэі ўсе прамерзлі навылёт.

Па запаведзях вашых паспрабуйце
У небе хлеб і волю раздабыць.
Гэта не там, у безаблічным гурце,
Ахвяр няўгодных зневажаць і біць.

Тут вы, як шкло, з заганамі і злосцю,
Пранізаны маразам і святлом,
Жывыя вы, а душы ў вас не госцяць,
Куды вас марнатраўства завяло?..»

Знямелі людзі пад здзічэлы рогат,
Асуджаныя д'яблавым судом.
І доўжылася белая дарога
Над безданню, няведаннем, бядой...

## РАЗВІТАННЕ

Хавала вёска селяніна,
У хаце плакала радня,
І пахла лесам дамавіна
У стоме жнівеньскага дня.

Якраз камбайн далі вяскоўцам.
А справа справай. Што ж рабіць?
Камбайн спяшаў услед за сонцам
Снапы ў дварах абмалаціць.

Спыняўся ля чарговых весніц,
Саломы копы пакідаў,
Ад спёкі, гулу ў вёсцы цесна...
А ў тым канцы была бяда.

З таго канца ў жалобе людзі
Ішлі няспешна за труной.
Нясцерпны боль душыў ім грудзі
І вочы засціла слязой.

І камбайнёр спыніў работу.
Было б жыццё, дык будзе й дзень.
Камбайн прыціснуўся да плота,
Каб моўчкі прапусціць людзей.

Салома мякка шаргацела,
Ўсцілала пад нагамі шлях,
Сказаць жытнёва штосьхацела
Таму, хто сеяў на палях,

Хто жаў, касіў, зграбаў салому
І не паспеў як след пажыць
За войнамі... Ішоў вось з дому
Навек за вёску адпачыць.

Глядзелі хаты ўслед з маркотай,
Смугой акрыўся далягляд.
І заставалася работа,
І заставалася зямля.

# БАЛАДА МАЎЧАННЯ

*Партызанцы Зосі Матусевіч
з вёскі Няхачава*

Заплач, сынок!
Мой родны, не маўчы!
Падай мне голас,
Зараз плакаць можна.
Пад сховай пушчы
І глухой начы
Не трэба быць
Ціхмяна асцярожным.

Балота, багна
Ўратавалі нас
Ад ненажэрных
Пастацяў чужынцаў...
Няма блакады.
Ёсць мая віна
І жорсткі страх,
Якога не пазбыцца.

Я заціскала
Немаўляці рот.
«Не закрычы! — маліла.—
Не заенчы!»
А зараз
Я прашу наадварот:
«Заплач, сынок!

Падай мне знак
Хоць нечым,
Што ты жывы,
Што кропельку душы,
Як свечку,
Я сама не пагасіла.
Твая галоўка
На маім плячы.
Азвіся,
Закрычы штосілы...»

І слухала дыханне
Зноў і зноў.
«Ці ты жывы?» —
Сама ў сябе пытала.
У перапынку
Лютае вайны
У маці на руках
Малое спала...

## ЛОБНАЕ МЕСЦА

На плошчы пукатай,
Што тайнаў шмат месціць,
Ля царскіх палатаў
Ёсць лобнае месца,
Дзяржаўнаахоўнае,
Любасць турыстаў,
Стаіць, нібы новае,
Год, можа, трыста.
Пра войны і страты
Разыдуцца весці.
Уздымецца раптам
Лобнае месца.
Без тайнага сведкі,
Без бляску і гуду
Ляціць на адведзіны
Рознага люду.
Як сядзе, святкуе
Чорнае свята:
Тады не шкадуе
Брат роднага брата.

Калі налятаецца,
Жыццяў нап'ецца,
На плошчу вяртаецца
Лобнае месца.
Шляхоў яго цёмных
Павек не расплесці,
Былога не помніць
Лобнае месца.

# ПЛАЧ
# ПА ДАВЫДУ
# ГАРАДЗЕНСКАМУ

Наш бацька Давыдзе
І стараста слаўнай Гародні,
Нашто нас пакінуў,
Дзяцей сваіх родных?
Нясём на шчытах
Да радзімы цябе асцярожна
Дарогаю бітай
І болем — нясцерпнаю пожняй.
А хто ж цяпер пойдзе
На рыцараў-псоў ненавісных?
А як мы з табою
Ганялі іх ажно за Віслу.
Чаму ж ты маўчыш?
Ужо не баліць табе рана?
Пракляты хай будзе Андрэй,
Той лях запраданы,
Што нож навастрыў
І падкраўся знянацку...
Хай ён на тым свеце
З гадзюкамі водзіць сваяцтва.
Няхай нашы слёзы
Крывёю яму адальюцца.
Вярніся, Давыдзе!
Каб мог ты, саколік, вярнуцца,
Як святкавалі б
Мы нашу з табою сустрэчу.

У смутку апушчаны
Вояў магутныя плечы.
Усцеш нас паглядам
Вачэй тваіх мужных, агністых,
Прачніся, Давыдзе,
На вояў сваіх азірніся.
Такога чарнюткага дня
Не было ў нас ніколі.
Героем цябе
Запомніла гэтае поле.
А тое, другое,
Спазнала цябе пераможцам.
Дзе ўзяць без цябе
Гародні і сілы, і моцы?
Мы сёння слабыя,
Ды нас не адолее гора,
Заўтра наш плач
У гімн жыцця ператворым.

## НА ГАРАДЗІШЧЫ

Разводдзе сіні і разводдзе траў,
Звініць паветра гоманам птушыным.
Вясёлы конь пасецца на вяршыні,
Бялюткі, бы адліты з серабра.

Пад капытамі глебы тлусты пласт,
Спарыш кудлаты тут спрадвеку родзіць.
А ля падножжа доўгія стагоддзі
Залеглі. Тайнай аклікаюць нас.

Аскепачкам гаршка дзевяты век
Адорыць, як каштоўнасцю вялікай,
Даверыцца дасведчаным разлікам
І ўсім тваім здагадкам, чалавек.

Пажарышчы пазначаць новы слой.
І зноў чытай жыццё ў знаходках дзіўных:
Вось бранзалет падораны адзінай,
Вось нож, што скрыжаваўся са стралой.

І гэты без замка іржавы ключ
Пакінуў продак тут невыпадкова.
Татарская разбітая падкова...
І мёртвы попел вычарніў зямлю.

А вось і найапошні, верхні, пласт,
Што прыхаваў вайны мінулай кулі.
Мы круг жыцця адвечны не замкнулі,
Яно яшчэ цячэ, цячэ праз нас...



Ці людаедства скончыцца нарэшце
На выстуджаных плошчах, на кастрах?
І сёння ў звар'яцелым свеце дзесьці
Распялі ўжо мільярднага Хрыста,
Каб з'есці мяса і запіць крывёю,
Паставіць помнік, абвясціць святым,
Пакутнікам, збавіцелем, героем,
Хрысціцца прад распяццем залатым...

Гісторыя не вучыць, а карае,
Высвечвае забытыя грахі.
Крыжы, крыжы ад краю і да краю.
Скрозь Сатана паспеў. А Бог глухі...

# ЛЕС

Стаяў той лес так, як стаіць народ,
Сам па сабе вякамі адраджаўся,
Сам птушак і звяроў сваіх бярог,
Ніякае казюркі не цураўся.

Стаяў і пазіраў удалячынь,
Была блакітнай далеч і бясконцай.
І выспявала ў дуба на плячы
Высокае раз'ясненае сонца.

Стаяў той лес, пакуль у шум яго
Не ўліўся грукат і смурод гвалтоўны.
І чалавек, што злейшы ад багоў,
Свае машыны раскруціў, як жорны.

Яны малолі, трушчылі, гулі.
І ўсё, што патрапляла ім пад колы,
Знікала, прападала на зямлі
Пад гàлас азвярэлы і вясёлы.

А лес стаяў, ён быў магутны, лес,
Ён знаў цану жыццю свайму святому,
Ён адступаў і сам сабе балеў,
Але не ўмеў паскардзіцца нікому.

Адкуль яму пра пяцігодкі знаць,
Пра павароты і пераўтварэнні,
Што ў разбурэнні — наша навізна,
Стваральны пафас — толькі ў разбурэнні.

Па плану веку будавалі ГЭС,
Сцвярджалі, што гігант неверагодны.
Была патрэба — затапілі лес,
Што па праекту ўсім было выгодна.

Глядзелі дрэвы ў неба з глыбіні,
Нявінныя тапельцы і ахвяры,
Цягнуліся да сонца, цеплыні,
Над імі хвалі беглі, нібы хмары.

Павольна падгнівалі карані,
Вынырваў лес маўкліва і бяскроўна.
Гані бярвенні, хваля, прэч гані,
Цяпер яны не лес, а толькі дровы.

А лес усплыў, нібы сляпая раць,
І хлынуў на высокую плаціну,
Гатовы нават мёртвы паміраць,
Гатовы нават мёртвы не загінуць.

* * *

Зарана даўні год будзіць,
яшчэ зарана,
усе дарогі да душы
пераараны.
А тое,
што крычыш здаля,
мне слухаць позна.
Між намі —
рэха цішыні,
ніякіх позваў.
Ні слова мне
не разабраць
ў эфірным гуле.
Няма дабра,
няма святла,
у зле паснулі...



У Ганцавічах нас ніхто не ганіў,
Паганы не трывожыў ноччу сон,
Цяплом вітала нас святая Ганна,
Скрозь пальцы пазіраў святы Антон.

Мядовы Спас не шкадаваў нам мёду
На пасецы за лесам маладым.
Ён нашы беды ўсе наперад ведаў
І развяваў сумненні ў прах і дым.

Спас яблычны нас частаваў пладамі.
Нектар і водар жнівеньскіх садоў
Нас не палохаў пеклам і грахамі
За краем, за мінуласцю гадоў.

Нам хлебны Спас прыязна пасміхаўся
У выцвілыя жоўтыя вусы,
Дажынкамі святочна развітаўся,
Насыпаўшы паловы ў валасы.

Святы Ілля не замачыў нам ногі,
Пашкадаваў, не нарабіў гнілля.
Ну, вось і ўсё. Разбегліся дарогі.
Жыць буду я ўспамінамі пасля.

* * *

Галубовую мрою наіўнасці
Не патрэбна здалёку вяртаць,
Покуль сыплюцца зоркі жніўня
Белай вежы ў цагляны рукаў,
Покуль песціцца рэчка Лясная
Пад паглядам каханых вачэй.
Скупа злічана часам, знаю,
Шчасце нашых дзён і начэй.
Шлях надвое падзеліць бязмежжа,
Слепа звузіць жыцця берагі,
Дзе нікому не буду належаць:
Ні сабе, ні табе, ні другім...

* * *

Прыходзіць слова — і пяюць масніцы,
Калі бяссонне моліцца ўначы.
Прыходзіць слова — і не прымірыцца
З тым горам, што вяшчуюць крумкачы.

Прыходзіць слова горка і прароча.
Схіляюся натхнёна над радком.
А з-за спіны ўжо смерць, як патароча,
Падглядвае, прыспешвае крадком.

Прыходзіць слова. У збалелым сэрцы
Азвецца час, нязбытны, лепшы, мой.
Апоўначы расчыніць вецер сенцы,
Каб вершы прапусціць перад сабой.

* * *

Ні ўсмешкі, ні слязы,
Ні скаргі, ні патолі.
Вось так і будзем жыць.
Пра што нам шкадаваць?
Бядуючы з уласнай,
Нібыта з божай волі,
Найлепшае ў сабе
І ў іншых забіваць.

Такі вялікі свет.
І шмат людзей прыгожых.
Такі бясконцы дзень,
А спехам ды бягом.
А зоры па начах
На шчасце нам варожаць,
Ды не жадаем мы
Шукаць між зор яго.

І не хапае сіл
Задумацца пра долю,
І не хапае дум
Асэнсаваць працяг.
Вось так і будзем жыць.
Ні скаргі, ні патолі.
Вось так і будзем жыць.
Ні шчасця, ні жыцця.



Даўно-даўно...
А бачу, нібы зараз,
як пад павеццю задуменна дзед
сабе чаруе
над дымчастым варам,
кідае ў чайнік
пахкі ліпаў квет,
чабор, малліннік,
жоўты святаяннік.
І водар нанач
селіцца ў двары,
пакуль нясуць
у хату белы чайнік.
І гэта ўсё...
Пра што тут гаварыць?



Як немаўля, агонь aберагала
У пашчах чорных стоеных пячор.
І разам з ім душою выгарала,
З іскрынкамі ўздымалася да зор.

Ніхто не знаў, пра што яна маўчала,
Пра што спявала ў доўгіх вечарах.
Між родзічаў самоты бракавала,
З самотаю агортваў сум і страх.

Глядзела поўня жоўтаю ваўчыцай,
Скуголіў вецер, глуха бор шумеў...
А песня ўмела з цішы нарадзіцца,
Прыцягвала няўтольна да сябе.

Жаночы голас з глыбіні стагоддзяў
Спявае незабыўна пра Дунай,
Дзе прашчур мой каня на рэчку водзіць,
Адсвечваецца ў хвалях даўніна...

# ПРАРОК

Ён быў ахвярнік, ён цікаўны быў,
Згадзіўся сам на гэта, як на подзвіг.
І сорак дзён, бы са святой вады,
З кунжутнага алею не выходзіў.

Прыносілі арэхі ці інжыр,
А ён да іх амаль не дакранаўся.
Ён быў жывы яшчэ, ды ўжо не жыў,
Унікліва ў наступнае ўзіраўся.

Ён ведаў: там яго чакае рай
За ўсе пакуты ў прыжыццёвым пекле.
Парэпалася скура, як кара,
І аплыла, і агаліла рэбры.

Штò цела, калі ёсць твая душа,
Якая прагне ведаць мудрасць ісцін.
Ачысці цела грэшнае спярша
І думкі хваравітыя ачысці.

Не кожнаму так дадзена згараць,
Добраахвотна, караю-зарокам.
Мінула сорак дзён. Вось і пара.
Быў чалавекам. Стань цяпер прарокам.

Апошняю хвілінаю жыцця
Адкрый жывым, што бачыш за мяжою,
Калі прад богам ты, нібы дзіця,
І чысты целам, і святы душою.

Яго дасталі з бочкі паўжывым,
І ён крычаў ад болю і пакуты.
Штосьці гаварыў... А што ён гаварыў,
Было незразумела й непачута.

Ён адышоў і ісціну панёс
Туды, адкуль ніколі не вярнуцца,
І слуп святла падняўся да нябёс...
Хоць там бы людзям з ім не размінуцца.

# АРЫФМЕТЫКА САТАНЫ

Калі вагон радыеактыўнага збожжа
змяшаць з трыма вагонамі «чыстага»,
дык атрымаецца чатыры вагоны атруты,
ад якой спакваля загінуць
сотні тысяч людзей.

І пакуль дзень і ноч змешваюцца гэтыя
вагоны,
пакуль дзень і ноч пячэцца хлеб наш
надзённы,
сам Сатана змарыўся лічыць ахвяры,
апусціў рукі і сказаў:
«Гэтыя людзі так цудоўна ўмеюць
знішчаць адзін аднаго
і нават саміх сябе,
што мне няма чаго рабіць на Беларусі.
Пайду да Бога
патрабаваць дапамогу
за беспрацоўе...»

## АЛХІМІЯ

Сціраю пыл з гісторыі,
Не засціце святло.
Чарую над рэтортаю,
Прабіркаю, катлом.
Зліваю і разводжу
Стагоддзі тых плямён,
Што з вечнасці выходзілі
Без вестак і імён.
Шляхі машчу каменнямі,
Дзе іх нябачны след.
А ўсё няма наймення ім,
Сцёр з памяці іх свет.



О, госпадзі, мы ўсе амаль святыя,
Жылі на свеце, нібыта сляпыя,
І падстаўлялі шчокі паслухмяна.
Такой бяды, што б'юць!
Наб'юць румянец.
І ў анекдотах мы такія цёмныя,
А дома, на зямлі сваёй, бяздомныя.
Ды ёсць у нас затое пастухі,
І кожны з іх да нашых бед глухі.
Мы іх трываем, нібыта святыя.
Чарнобыль нас асіліў, не батыі.
Мы свецімся ад стронцыю і цэзію,
І гэта найчарнейшая паэзія.



Запалены зоркі,
як свечачкі на жырандолі,
якую каваў
для нашчадкаў натхнёна Багрым.
Была ў мяне доля,
а я сябравала з нядоляй,
што здрадна засыпала
шлях мой каменнем з гары.

Я блытала мёртвых з жывымі
ў шматлюднай пустэчы,
адбітак сусвету
насіла ў вачах,
як прысуд,
баялася думкі
аб жорсткі пагляд пакалечыць,
хацела збудзіць
у атручаных душах красу.

Я з часам яшчэ
з сябе пасмяюся даволі.
Цяпер я
ніводнага грэшніка не запыню.
Спяшаецца ў пекла?
Няхай сабе.
Вольнаму воля.
Натомлены цемраю,
прагне святла і агню.

Скавалі нас мары
пра крылы, драбіны і вежы:
далезці б нарэшце
да райскіх дармовых садоў.
Мы валадары,
якім тут нішто не належыць,
апроч незваротных,
патрачаных марна, гадоў.

## АДПУСЦІ

Я цябе сярод тысяч шукала,
Не стуляла стамлёных павек,
Заклінала, маліла, гукала:
Адпусці! Дай мне волю навек.

І прыклікала дух твой нарэшце.
Ты з'явіўся, як прывід, чужы.
Сэрца ўзнёслае грудзі не месцяць.
Пра наступнае мне раскажы.

Ты маўчыш, ты мінулым распяты
І не звык ратаваць і гадзіць.
Адпусці — папрасіла зацята.
Ты паціснуў плячыма: ідзі.

Я іду, а наперадзе морак.
Як над прорвай глыбокай стаю.
Не хапае мне сонца і зорак,
Забяры ў мяне памяць маю.



За няверʼе адпомсціла вера,
Не злятаюць анёлы спагады.
Шэры дзень, шэры горад, шэры
Час пакоры, прыгнёту, пагарды...

Мы гаворым на розных мовах,
Зразумець немагчыма гукі.
Замярзаюць без водгуку словы,
Ледзянеюць самотаю рукі.



Няма адхлання ў гэтым свеце мне,
Схіляю сэрца да цярплівай згоды.
Не па маёй, не па сваёй віне
З майго жыцця ты доўга адыходзіш.

Я ведаю, не трэба шкадаваць
Мінулае — наступнае лагодзіць.
Адродзіцца душа, нібы трава,
Пакуль з яе ты доўга адыходзіш.

У цемры дум блукаю давідна,
Спазнала чорны свет і той, і гэты.
Заўжды з табой, таму заўжды адна,
Нязбытным, нібы прахам, адагрэта.



Распадаюцца дні пад кіслотнай залевай,
Раствараемся ў днях, нібы ржа нас паела.

Успаміны хаваем, бы прах па магілах,
Вось спакоем бяздумным жыццё нас акрыла

Як смаўжы, пазглядаем з цесных шкарлупін,
Раптам пашчасціць, яшчэ раз палюбім.

## РАЎНАВАГА

Вяршыня лета, цеплыні часовасць.
Адчай таемны зведаны спаўна.
Пастукаюцца супраць ночы словы,
Са мной рахункі зводзяць павідна.

Здаецца, старасць недзе за гарамі,
А скроні шчодра ўбрала сівізной.
Запозна сеяць, жаць яшчэ зарана.
Бясплоднае каханне прад зімой.

Скупыя мроі. Простыя жаданні.
Надзеяй саграваюся ўначы.
І кожная сустрэча — развітанне.
А калі плакаць, дык было б па чым.

Зноў радасць, як дзіцятка, прыгарну.
Як боязна яшчэ раз апячыся.
Чаму як сэрца аддаю агню,
Дык з горкім дымам дасягаю высі?..

* * *

Верасень мне пасміхаецца тварам тваім,
Рыжай чупрынаю бавіцца вецер залётны.
Можна ўсе шчырыя словы ў сабе затаіць,
Можна схлусіць, каб не позірк
пакорна-самотны.

Неба заслана сінечаю слёзнаю хмар,
Неба тваімі вачамі глядзіць азалела.
Не нахіляй нада мною пакутліва твар,
Не аклікай тою песняю, што адбалела.

Сумныя весткі разносіць з насеннем трава,
Нават яна не прымае наканавання.
Здзвіжанне ўчора яснотаю лес святкаваў,
Усіх прымірыў, згуртаваў, благаславіў
на вяртанне.

## РАЗВІТАННЕ З СОНЦАМ

Адгарэла маё святло,
Адпалала натхненнем і болем,
Адбыло, адсвяціла, сышло,
Дык не трэба нічога болей.

Непазбежна спыняецца час.
І не зведаць мне большай пакуты:
Лісця мёртвы цяжар на плячах
Тленам зажыва голле ахутаў.

Засынаю пад стоены гул,
Асыпаю лістоту дадолу,
Я змірыцца з нядоляй магу
І прыняць яе, нібы долю,—

Толькі зноў разбудзіла б мяне
Сакавіцкае сонца пяшчотай.
Засынаю. У новай вясне
Мо паменее смутку і слоты...

* * *

Скарбы ўсе рассыпаюцца ў прах,
Мне спакою не знаць нідзе.
Перад заўтрашнім днём — страх
За сябе, за зямлю, за людзей...

* * *

Лячу ізноў, і не хапае крыл,
і халадок ужо фліртуе з Музай.

*Яўгенія Янішчыц*

Што меў паэт, раздаў без шкадавання,
Сусветны холад выстудзіў жытло.
Ёсць успаміны, ды няма вяртання,
І арэолам — стома над чалом.

Рака кахання мкнецца супраць часу
І супраць лёсу... Як яе спыніць?
Не скарыстаеш слова для акрасы,
Калі краса ў пачуццях не шчыміць.

Цяжкому слову горыччу адбіцца,
Жывому слову выспець дабрынёй.
І гэтак лёгка аб жыццё разбіцца,
Як зблытаеш прадонне з вышынёй.



Не здрадзь сабе, не здрадзіш і другім.
Хацела вернай быць, а знаю здраду.
Штò шчасце? Ачмурэння горкі дым.
Кароткая украдзеная радасць.

Для самаапраўдання сто прычын,
Гляджу з агідай на адлюстраванне.
Варонай чорнай — смутак на плячы.
Згубіла ці знайшла цябе, каханне?

Я ведаю няшчыры плач і смех.
Хоць маю хату, пражыву бяздомна.
Што я нясу ў сабе? Жыццё ці смерць?
Мо толькі Богу аднаму вядома.



Злітуйся, доля, над тым,
Хто схіліўся ў маленні
Перад жанчынай:
Душа да яго не ляжыць.
Дай яму сілу і годнасць
Падняцца з каленяў,
Па-мацярынску
Праведны шлях пакажы.

Доўга сама я
Да мроі ішла ў замятуху.
Столькі дакукі
Ў натомленым сэрцы таю,
Што не магу болей
Слухаць яго і не слухаць.
Тайна мая,
Перад чым на каленях стаю?

## СОРАМ

Мне сорам быў вышэй за ўсіх багоў,
Паліў душу нядрэмнымі вачыма.
Саромелася жорсткасці магчымай,
Убоства чалавечага свайго.

Саромелася есці хлеб чужы
І прагла паўналецця дачакацца,
За самастойнасць дзякуй цяжкай працы,
Што з ёю трохі палягчэла жыць.

Мільгалі хуткаплынныя гады,
Запісваліся вершамі ў мой дзённік,
А сорам, неадступны і бяссонны,
Застаўся як суддзя маёй хады.

Ён шмат дае, а забірае больш.
Жыву пад ім, нібы на раздарожжы.
Вагаюся, што можна, што не можна?
За шчасце — боль, і за пакуту — боль.

# СПЕКТАКЛЬ

Нас шкадуюць дарма, што жылі мы не так
І не ссалі дзвюх матак салодкае вымя,
Праўду піша сваёю крывёю мастак,
І не трэба для праўды ніякага грыму.

Не гукайце мінулым, яно адбыло.
Не сцяліце наступнасць чароўным кілімам.
Мы ў цяпер. Дык скіруйце на сцэну святло.
Вызваляюцца душы. Працуем без грыму.

Мы не ведаем самі, што можа душа,
Калі горыч чужую, бы ўласную, прымем.
Ёсць жыццё, як адзіная роля і шанс,
Перад злом і дабром іграем без грыму.



Што адбылося, тое адышло,
Страшуся зблытаць зноў дабро і зло,
Давер нявер'ем жорстка засмуціць,
Сваю бяду ў чужы спакой пусціць.

Што адбылося, тое адышло,
Ператварае час надзею ў тхло
І мару адбірае бессаромна.
Такі разбой. А мне — нібы ўсё роўна...



Даіснаваць да нечага яшчэ,
Каб задаволіць хцівую цікаўнасць,
Пакуль атрутны час жыцця цячэ,
Працую, сплю і ем, як робат, спраўна.

Я, як усе, усе, нібыта я.
Натоўп то агрэсіўны, то лагодны.
Жывыя мы, а быццам з небыцця,
Пры душах і халодных, і галодных.



Дол у зорках,
неба ў яблыках,
поўня цёплая, як печ,
а свавольны вецер
д'яблікам
рве хусцінку
з кволых плеч.
    З палыну
    вянок мой сплецены,
    пасівелая каса.
    Да палёў
    іду ў адведзіны,
    студзіць сэрцайка раса.
Ой, якая
ночка доўгая,
стыне
золкая пасцель.
Не сцяжынай,
не дарогаю
мне да любага ляцець,
толькі згадкаю
ды мараю,
толькі ўпотай
ад людзей.
Стала мне
каханне караю
ды пакутаю
штодзень.



Яшчэ хлапчук спазнаў ледзь-ледзь
Соль словаў запаветных,
Яшчэ яму расці, сталець,
А маці шые ветразь.

Мінаюць доўгія гады
У турботах непрыкметна.
Дзень белы, сіні, залаты...
А маці шые ветразь.

І вось расстайны выпаў час,
Калі пад песню ветра
Хлапчына ў маці на вачах
Уздымае белы ветразь.

Што чайка роспачна крычыць?
Сын шчасна азірнецца.
І ўслед за ветразем ляціць
Сівой матулі сэрца.

## ПРЫЗНАННЕ

Ты рэўнасцю мяне
не абражай,
не падпільноўвай,
не сачы міжволі,
твайго нявер'я
стоены кажан
упаляваў
маю сляпую долю.

Я — паланянка
сплочаных даўгоў,
заложніца
патрэб і абавязкаў,
даўно не маю
твару я свайго,
ёсць на твой густ
утвораная маска.



У чайкі белай чорнае крыло.
Злучаю я нязводна боль і радасць,
Так блытаюцца праведнасць і здрада,
Так двухадзіны цемра і святло.

Я з чорнае і белае вады
Шукаю для надзеі паратунку.
Звініць чаканне трапяткою стрункай,
Так блізка да адхлання і бяды.

* * *

Адным давярала надзеі,
Другім давярала душу,
Трэцім сёння — жыццё.

Дзіўлюся, як людзі не баяцца
Браць на сябе такі цяжар?



Бывае ж так: няўзнак зрадняцца людзі,
Хоць нас судзілі ростань і адчай.
На цэлы б век сустрэчу замарудзіць
Каля твайго надзейнага пляча.

Прад памяццю жыву безабаронна,
Яна ж зусім адбілася ад рук.
Даруй мне час, няпэўнасцю замглёны,
І развітальны позірк мне даруй.

## ВЕНГЕРСКАЕ СВЯТА

Ці неба разбіла вясёлку над горадам,
Рассыпала фарбы па вуліцах шумных,
Бітаюцца людзі, усмешліва, молада,
Губляе свой смутак, хто ўчора быў сумны.
Спяшае да гурту, хто быў нелюдзімы,
Хто злосцю зыходзіў, дабрэе міжволі,
Педант забывае глядзець на гадзіннік,
На тварах і ў сэрцах — радасць і воля.

Дзень Іштвана, Кветкавы баль у сталіцы.
Нас вынес насустрач натоўп нечакана.
Далонь у далоні — каб не згубіцца,
Сустрэліся позна, развітваўца рана.
Я радасць хаваю ў дароных рамонках,
І поўняцца шчасцем наіўным імгненні.
Такая ў нас светлая, Іштван, гамонка
На мове вачэй, дабрыні, разумення.
Дарэмна той пеўнік на храме высокім
Крычыць нам, паслухай, што ўсё праміне.
Калісь у наступным маім адзінокім
Дзень Іштвана мо адагрэе мяне.

## НА ПРОШЧЫ

Між гор, дзе на схілах
Асеннія дрэвы, як вохра.
Шукала я сілы,
А сэрца мінуласцю сохла.

У злосці хаўруснай
Дажджы маё выкралі сонца.
Пасмяглыя вусны
Крывавілі — болька на больцы.

Жабрацкая кайстра надзеі
Даўно апусцела,
Цяплом дзень надзеліць,
А ноч горка выстудзіць цела.

Даруйце, багі,
Пагубляла я вашы дарункі.
Выходжу з тугі,
І плятуцца жалобы карункі.

Была маладосць,
Ды пасеяна недзе па свеце,
Ад светлых гадоў —
Толькі згадак бяздумнае смецце.

Вяртаць, забываць перажытае —
Марная праца.
Да родных руін
Мне з чужыны прасветла вяртацца.

# ВОЛЬГА

Ужо ні вады ў вас, ні хлеба,
Ад смерці ды ў смерць не ўцячы,
Нудзіцца палёў вашых глеба,
Стаміў яе доўгі спачын.

Ніякае ваша багацце
Не здольна павек замяніць
Жанчыне вялікае шчасце —
Адзінага ў свеце любіць.

Здавайцеся добраю воляй,
Вымольвайце літасць багоў.
Не верне ніхто і ніколі
Мне князя і мужа майго.

Прызначу малую даніну:
Тры голубы, тры вераб'і
Ад хаты. Аддайце дружыне
На будучы мір на зямлі.

Дружына даніне не рада,
І воі смяюцца крадком.
Не, гэта не дурасць, не здрада,
А памяць пра мужа майго.

Прывяжам да лапак птушыных
У анучкі загорнуты трут
І выпусцім з добрым памінам
Пра тых, што ад птушак памруць,

Хто згіне ад стрэл і пажару.
Пячэ мяне жорсткі агонь.
І гэта не помста, а кара
Самой мне за мужа майго.

Праклятым будзь, лёс мой удовін,
І кліча да мужа зямля.
Пайсці б у адвечныя сховы...
Ды сынаў трымае пагляд.

# СПАКУШЭННЕ

«Бацюшка, можа, малітва твая
Дойдзе да Бога, няхай ён пачуе,
Як у слязах я днюю-начую...
Грэшніца я...

Страх мой і грэх ад праклятага дня:
Сотнік забраў за падаткі з дамоўкі.
Ноччу вужом прыпаўзаў у каморку...
Грэшніца я.

Слёз маіх горкіх — да мора бруя.
А згледзелі толькі, што ўжо чараватая,
Хутка ўдаўцу сівому прасваталі.
Грэшніца я.

Гэтак чакала маё хлапчаня,
З ім бы забыцца на гора ліхое.
І нарадзіла — яно нежывое.
Грэшніца я.

Потым і мужа прыбрала зямля.
Я гаспадыняю стала самотнай.
Васю Пухлова выглядвалі вокны.
Грэшніца я.

Вася — свавольнік, Вася — буян,
Вочы — святлынь, валасы залатыя.
Дайце мне моцы, мошчы святыя!
Грэшніца я...»

Твар, бы ў мадонны, анёльскі пагляд,
Магія д'ябальскай прыгажосці.
Хто нарадзіў яе? Неба? Зямля?
Постаць пакорная ранняе госці.

Свечка датлела, слязьмі аплыла,
Не ўтаймавала душы звар'яцелай.
Дзе ты, душа, свае крылы ўзяла,
Што следам за грэшніцаю паляцела?..

7. Зак. 723



Пачуцця падводнае цячэнне,
Давяраеш толькі цішыні.
Думак патаемнае мігценне
І жаданняў палкія агні.

Сэрца-неслух супакоіш з часам,
Вось, маўляў, знайшло пра што балець.
У жыцця ўсё золата ў запасе,
Дык ці варта квапіцца на медзь?

Толькі недзе ў глыбіні цячэння
Застаецца светлы успамін:
Думак патаемнае мігценне
І жаданняў даўнія агні.



Той чалавек,
каго я звала бацькам,
пайшоў у свет,
нажыў дачку другую,
даў ёй такое ж,
як маё, імя
і тым у памяці
мяне закрэсліў.

Той чалавек,
каго назвала б мужам,
не адшукаў мяне
сярод дзяўчат,
займеў сям'ю,
жыве мо і шчасліва,
мяне і ў сны свае
не дапускае.

Юнак, якога
называю сынам,
таксама выбіраецца
ў дарогу,
услед гляджу
са страхам і надзеяй:
ці ад мяне
залежыць хоць што-небудзь?



У белы свет я адпусціла мару,
Яе не вернеш, марна не шкадуй.
Непадуладна я вясновым чарам.
Ты не праводзь. Далей адна пайду.

На развітанне позіркам сагрэю,
Дасціпным словам раптам укалю.
Чым болей я сталею і старэю,
Тым болей сябра я ў табе люблю.



Я нагружала лёс свой без патолі
І шчыравала па начах і днях.
Вось ён, багаж маёй шчаслівай долі,
Сіл не стае адной цяжар падняць...



Узяць бы раўнавагі для душы
У жыццядайнай мудрасці прыроды,
Сябе самотай жорстка не сушыць,
Не гневацца з упартае нязгоды.

Я ў цемры, дзе надзеі не відно,
Зноў праклінаю шлях, ушчэнт разбіты.
Хоць смерць яшчэ не стукае ў акно,
А я даўно сама сабой забіта.



* * *

Холад космасу, веліч зімы,
Свет развеяны на сняжынкі.
Ўсё, што бачыш, душою прымі,
Не шукай ні святла,
ні сцяжынкі
У пражыты калісьці час.
Хараство, як тады, а чужое.
Пра мінулае сосны маўчаць,
Забыццём маё сэрца гояць.

* * *

Употайкі жыву табою,
Пад холадам тваіх нябёс.
Не выдам позіркам любові,
Сама ў сябе свой краду лёс.



Вось расшчэплены рукі,
Прагучала: «Бывай!»
Невыносна разлуку
Адзінокай трываць.

Невыносны дакука
І маўклівасць жытла.
Пэўна, толькі разлука
Так з'яднаць нас магла.



Колькі падала зор
На маю галаву!
Валасы — шэры попел,
Змярцвелыя пасмы.
Дом, дзе гэтак часова
І вечна жыву,
Абяздолены зоркамі,
Зоркамі ясны.

Дах ад зор прагарэў,
Дах — як рэшата ўвесь,
І праз дзіркі зіхцяць
Недасяжныя зоры.
Я жыву
У хаўрусе сцюдзёных завей,
З імі ўголас маўчым
І маўкліва гаворым.

Што пасмею яшчэ
На зямлі памяняць,
Калі столькі збылося
Святла і чарноты?
Вунь на дрэвах
Лістотаю зоркі гараць,
Трапяткі і балючы
Іх дотык.



У нетрах зрэнак выспее сляза,
І сэрца ў хваляванні анямее.
Табе змагла галоўнае сказаць,
Ды паўтарыць, напэўна, не пасмею.



Нас заручылі зоркі, і пад імі
Як ні імкнуся без цябе пражыць,
Былая радасць з роспачы падыме,
Былая песня ў сэрцы задрыжыць.

Было, было... А зоркі ў небе тыя ж,
Ды іншыя і вёсны, і гады.
Стамляюся падлічваць дні пустыя,
Абдзеленыя шчасцем назаўжды.



Жабрацкае жыццё я выбрала сама,
Складаю ў кайстру словы, што падораць.
Прытулку мне няма, спакою мне няма,
Чужыя зоркі мне злачынна шлях азораць.

З чужое ласкі жыць, на долю варажыць
І не чакаць ні цудаў, ні патолі.
А сэрца, нібы ліст запознены, дрыжыць
Ад прадчування недасяжнай волі.



Спелая восень стамілася ў доўгіх турботах,
Коціцца сонца па волі высокай Сварога.
Нібы надломлена ў сэрцы галіначка ўпотай —
Выспелі яблыкі ў садзе графа Талстога.

Яблыні родзяць, сябе не шкадуючы, шчыра,
Добрых пладоў не бывае ніколі замнога.
Шкода, што душы людзей адлятаюць у вырай.
Выспелі яблыкі ў садзе графа Талстога.

Каб жа сабраць на бяседу былое з сучасным,
Не прыгнятаць паднябесным звычайна-зямное,
Стала б Паляна тады па-сапраўднаму Яснай,
Выспелі яблыкі ў садзе графа Талстога.

Пеклам дыхнула з Чарнобыля шызая хмара,
Не адхрысціўся сад ад рукі Чарнабога,
Грэх чалавечы — а дрэвам бязлітаснасць кары.
Выспелі яблыкі ў садзе графа Талстога.

## ЗАЛЕЖНАСЦЬ

З маленства шукаю мяжу небакраю
У палях маладых, пад раз'ясненым небам.
Бягу напрасткі і ў жыце знікаю.
Поле — перш з васільком,
А пасля толькі — з хлебам.

Над возерам Белым — кудлатыя хмары.
Сцюдзёная хваля бяжыць па слядах,
Змывае былыя надзеі і мары.
Якія нябёсы —
Такая вада.

Не так пражыла я свой час найдарожшы,
Нічога ў мінулым цяпер не закрэсліць.
І новага веку не купіш за грошы.
Якое жыццё —
Такія і песні.

* * *

Прыходзяць ілжэмесіі
І клічуць у новы рай,
Што на крыві замясілі.
Не хочаш, а выбірай.



Ах, Драгічын, дрогкі шлях,
Дрогкі смутак поля.
Павадзіла нас зямля
Круглая наўкола.
І нарэшце ўсё ж звяла
Рукі і дарогі.
Думкам жудасна крыляць
Пад наглядам бога.
Як над прорваю, стаім.
Свецяць вочы ў вочы.
Ці то ў неба паляцім,
Ці ў прадонне скочым?
І такі цяжар нябёс
Прыціскае плечы.
Цеплынёй ратуе лёс
І агнём нявечыць.



Кароткі дзень,
не скардзімся нікому,
рука ў руцэ —
і шчасце ўжо для нас.
Падумаю:
а як там будзе, дома,
але адказ шукаць
яшчэ не час.

Кароткай ночкай
цяжка доўгім думам,
а целу век
душы не зразумець
і незайманых слоў
не передумаць.
Хто не кахае,
той звініць,
як медзь.



Змяркаецца. Мы выязджаем з лесу
На аўтастраду паміж дзвюх сталіц.
Адпелі сосны нам святую месу,
І ўжо нічога ўпотай не баліць.

Ну што з таго, што нехта пасміхнуўся,
Якія ў маі ягады-грыбы?
Я мо мільён разоў сюды вярнуся,
Дзе ты маім так неабходна быў.

Схілілася над намі неба крона,
Сусвет касмічнай хуткасцю гудзе.
Мы парушаем правілы абгону,
Ляцім. Наперад лепей не глядзець...



Мы багатыя — маем бязлюдную ноч
І прасторнае неба, якое звініць і спявае.
І вяртаецца тое, што страчана намі даўно,
І цябе мне былога вяртае.



Пакуль ты спіш, я буду чараваць,
Пяшчотай вуснаў саграваць сутонне,
Наступнасць з ясных мрояў муравaць,
Хоць, знаю, вечнасць скіне ўсё ў прадонне.

Пакуль ты спіш, я думаю пра нас,
Як самацветы, падбіраю словы.
А паміж намі, як сцяна, віна,
Умоўнасцей надуманых аковы.

А за акном люцее лістабой,
Тваё адзенне скінута, бы крылы.
Мы блытаем каханне і любоў
У гэтым свеце, ад нявер'я стылым.



Што сееш ты неасцярожным словам?
Я глеба неўрадлівая твая.
А час бескампрамісны і суровы,
Да нас неміласэрны ж удвая.

Дарма чакаць дабра ад нетрывушчых,
Дарма на злыдняў траціць цеплыню.
Чужыя душы, нібы нетры пушчаў,
Баяцца вынішчальнага агню.



Ты дарма забываеш мяне,
Покуль зорка за шыбаю стыне.
Будуць зімы, бясконцыя зімы,
Ні адна з іх цябе не міне.

Ты дарма забываеш мяне,
Покуль сонца вяснова смяецца,
Цеплыня да тугі не праб'ецца,
Цеплыня новых стрэч не кране.

Не праклёнам, не сном-маркотай
І не караю вечных багоў,
Толькі згадкай прыходжу ўпотай,
Хоць сама не знаю таго.

І не сведкі нам добрыя людзі,
Каб судзіць або даравацць...
Ты мяне назусім забудзеш,
Як не будзе чаго забываць.



Ад спалоху — нас болей не будзе!—
Расцякаецца сонца жаўтком.
Не разбудзяць спагадныя людзі
Ні лістом, ні пісьмом, ні званком.

Вось пастаўлена горкая кропка,
Далакоп паплюе на далонь
І пачне тое сэрца закопваць,
Што палала, як ясны агонь,

Што спявала ад гора і шчасця,
Што пакінула стоены след,
Каб ахвярна і ціха вяртацца,
З намі разам і жыць, і балець.



Нічога не каштуе
Пражыць жыццё за ноч,
Праклятую, святую,
Пасля — навекі з воч.

Пасля, пасля — пустэча.
Адпла́чу, адмаўчу...
І толькі словы лечаць,
Што выпала пачуць.

## ПЕСНЯ

Люблю твой смех,
Што ў вечар адлятае
І адмятае золкую тугу.
Я вінаватая,
Цябе кахаю,
Але сказаць пра гэта не магу.

Я зноў маўчу,
Хоць боль да небакраю.
Прыгрэе сонца веснюю смугу.
Я вінаватая,
Цябе кахаю,
Але сказаць пра гэта не магу.

Запознена сябе
Зноў дакараю,
Расстаннем згадкі
Тайна берагу.
Я вінаватая,
Цябе кахаю,
Але сказаць пра гэта не магу.



Як гібельна нам не хапае хвілін,
Абдымкаў і вуснаў, натомленых скрухай.
Мінулае лета снягі замялі,
Бязмежнасць прасторы між намі аглухла.

Нам, можа, няма апраўдання ні ў чым.
Зноў дыхае ў спіны часу пагоня.
Што мелі паспешна сказаць, прамаўчым,
Нас гэтыя словы ля зорак дагоняць.



Куды ні паплыву на хвалі песні,
А голас уліваецца ў Дняпро.
Ажыне тут ад вербалозу цесна,
І вочы выпраменьваюць дабро,

І гэтак вольна позірку і сэрцу
З самотаю ці пры старых сябрах.
Нязводна лозы выганяюць вецце,
І сонца нараджаецца з Дняпра.



Адгаравала, выцвіла зямля.
Да белаты адбеленае поле.
Замерзлыя былінкі не баляць,
І не шуміць на дзікай грушы голле.

Зноў сонца знікла за наміткай хмар.
Усё са срэбра, зрэб'я і марозу.
Зіма — пад небам, у вачах — зіма,
Ды, як трава, не паміраюць крозы.



Вымяраючы сонцам прастору,
Лагаднеюць вясновыя дні.
І запальвае змэнчаны горад,
Нібы мёртвыя душы, агні.

Я чужынка кварталаў і вуліц,
Душыць горла нервовы камяк.
Тут найлепшыя мары мінулі,
На наступнасць іх не памяняць.

Пазбягаючы вока чужога,
Незаўважна пакіну натоўп.
Не чакаю тут сэрцам нікога,
І мяне не аклікне ніхто.



Залаты ланцужок тваіх слоў
Распадаецца, не сабраць.
Застаюся без шчасных акоў:
Захаплення, святла і дабра.

Дзень ці век нечакана ачах
Сярод пусткі ілжывых сноў.
Рассыпаецца на вачах
Залаты ланцужок тваіх слоў.



Няма чаго самотна мне журыцца,
Жыву прасветла ў шчодрым гурце дзён.
Пазвоніць зранку за акном сініца,
Як пісьмамі, заваліць лісцем клён.

Прыносіць вецер свежыя навіны:
Ці дожджык порсткі, ці дачасны снег.
І даспяваюць ягады каліны
У заінелым ад марозу сне.



Адлучаю цябе ад кахання
Горнай музыкай арфаў і труб,
Адлучаю арганным дыханнем
І жалобным выццём завірух.

Дзе царква адплывае за хмарай,
На званіцы галубка, як стогн,
Застаецца нязбытная мара,
Застаецца няздзейснены сон.

Час нічога ўжо не азначае,
Хоць прыспешвай яго, хоць марудзь.
Я сябе ад цябе адлучаю,
Гэтак з дрэва здзіраюць кару.

* * *

Я цябе ў сабе пахавала,
Вершы склала, нібыта вянкі,
І адплакала, і адспявала
На гады, на жыццё, на вякі.

Толькі слёз тых і песень мне мала,
Выдыхаю іх з болем грудзьмі.
Я сябе ў табе пахавала,
Нежывая жыву між людзьмі.

* * *

Надыдзе старасць,
перакрэсліць твар,
як чарнавік.
Жыццё не перакрэсліш.
Жыццё — такі
нехадавы тавар,
што смерць яго,
як скупшчык,
жратрэсла.
І выбірала
лепшых сярод нас,
і выбівала,
вырывала з часу.
Жывым нам
заставалася віна
і слёзы для палёгкі
ці акрасы.
Над намі зоркі,
як мільёны душ,
над намі неба
п'е тугу начамі.
Ці паспяшаю,
ці паволі йду,
а подых смерці
чую за плячамі.

* * *

Бывай, апошняе цяпло.
У лісце долю апранула.
Жыццё, напэўна, не прайшло,
Ды ўсё найлепшае мінула.



Я пакінута сумам,
Ні лістоў, ні званкоў не чакаю.
Не баліць маім думам,
Калі да самоты звыкаю.

Занядбаная марай,
Я згубілася ў стомленым свеце.
Ні ратунак, ні кара
Мяне між людзьмі не прыкмецяць.

І няма ў мяне сілы
У мінулае згадкай вяртацца.
Я надзеі знасіла
На шляху да нязбытнага шчасця.



Анафема табе, маё каханне,
Што атруціла поўнач і світанне,
Дало святло, а цемру адабрала,
Што склала песню, а душу зламала.
Анафема за боль і адзіноту,
За шчасце, што адкладзена на потым,
І ўжо яму не здзейсніцца ніколі.
Анафема за прымусовасць волі,
Анафема за згадкі і за крыўды,
За збег планет і міласці планіды.
Хоць не шкадую ні пра што дазвання,
Анафема табе, маё каханне.



Для мінулых пачуццяў памерці,
Нібы сцерці сябе з жыцця,
Гэта, можа, страшней ад смерці,
Бо вяртаешся з небыцця.

Набываеш такую свабоду,
Страшна ў цемру яе глядзець.
Адзіноты здзічэлы подых,
Ноч хімераў і прывідны дзень.

Ні ў правінцыі, ні ў сталіцы
Жорсткай смагі не наталіць.
Можна волі ў няволі напіцца,
Калі воля табе не баліць.



Зноў я зусім бязвольная пры волі.
Атрута дзён, смяротны дух начэй.
Хапіла мне ў жыцці ўсяго даволі,
Чаму ж пад сэрцам горача пячэ?
Чаго яму, няўрымсліваму, трэба?
Якой любові, святасці, святла,
Што вочы прагна звернуты да неба,
Нібы палёгка стуль калі прыйшла...

* * *

Зблытала промні стамлёнае сонца
У павуцінні гардзін.
Шчасце ўдваіх не бывае бясконцым.
Пойдзеш адзін.

Пусткаю, багнаю — шлях бездарожны.
Вочы, як холад ільдзін.
Можна загінуць, выстаяць можна.
Пойдзеш адзін.

Што прадчуваю, што прадракаю
Золакам сумных гадзін?
Я да самоты загодзь прывыкаю.
Пойдзеш адзін.

Цяжка пра новую стрэчу пытацца.
Сорамна долі гадзíць.
Горка развітвацца. Страшна вяртацца.
Пойдзеш адзін.

## ДЗЯВОЧАЯ ПЕСНЯ

Засцілаецца далеч туманам,
Засціць вокны сумота ў жальбе.
Дзе ты, мой дарагі і жаданы,
Як знайсці мне на свеце цябе.

Ападаюць снягі маладыя,
Нібы мяккую сцелюць пасцель.
Толькі ты скажаш словы мне тыя,
Жыць з якімі святлей і прасцей.

Толькі ты, толькі ты... Але дзе ты?
На якое святло я лячу?
Не збываюцца сны і прыкметы,
А пра мару я горка маўчу.

Засцілаецца далеч туманам,
Засціць вокны сумота ў жальбе.
Дзе ты, мой дарагі і жаданы,
Як знайсці мне на свеце цябе?



Дзе быў закон з махлярства і маны,
Бяспраўным раптам выдалі правы,
Спаўна, неверагодна, пад завязку...
Яны ж іх прынялі за абавязкі.
І дружна ледзь не ўсе загаласілі,
Што ім правы падкарацілі крылы,
Павіслі на руках, нібы аковы.
Бяспраўным абавязкаў дастаткова.



Жабракі разабралі ўсе скарбы мае,
разнеслі па нітцы,
растапталі і пагублялі.
Не пабагацелі,
рук не намазолілі,
жывуць у блудзе і брудзе,
набрыдлі сабе і людзям.

Злітуйся, Божа,
прыбяры гэтых бежанцаў ад жыцця,
абдзеленых сумленнем і праўдаю.
А Бог маўчыць, такія яму не трэба.
І пекла бітком забіта,
чакаецца пашырэнне...

* * *

Цябе зіма прыспала, ты гэтаму і рады.
У чорна-белых снах — ні шчасця, ні тугі.
А як ні павярні: і так і гэтак — здрада.
Вяртаецца былое на новыя кругі.

Нібы няма ніякай навокал перамены.
Жывеш сабе, жывеш. Як можаш, цягнеш воз.
Але каб проста так, а ўсё, усё ж на нервах.
І хто праклятым болей: ці сам ты, ці твой лёс?

Я скрозь прастор гляджу. І позірк гэты вечны.
І ўжо няма мяжы між яваю і сном,
Як хіліш галавы заснежаны сланечнік
У жоўтым німбе лямпы над стомленым сталом.



Што́ наша памяць? Магілкі гадоў.
Жыццё згарае ў стоенай агоніі.
Хоць як бяжы, мінуласць не дагоніш.
Развідняе над колішняй бядой,
І зразумееш: зноў усё дарма
Пад гэтым добрым і нязводным сонцам.
І кожны сам сваёй душы турма,
І кожны сам суддзя і абаронца.



Я стварала цябе з немагчымага яснага зыку,
Нерастрачаным сэрцам абпальвала вершаў
радкі.
Я вучылася доўга цябе з недасяжнасці клікаць,
Выплывала з вачэй тваіх, нібы з вірлівай ракі.

Вар'яцела ў самоце, сябе непрытомна губляла.
Глухла доўгім маўчаннем, нямела ад
выцвілых слоў.
Колькі горкіх хвілін я да скону ў сабе
залюляла,
Колькі я пракляла безнадзейных і мрояў,
і сноў.

А цяпер... Што ж цяпер?
Замярзаю аголеным дрэўцам.
Страшна ў заўтра глядзець, немагчыма
вярнуцца назад.
Абгарэлым лістком аблятае збалелае сэрца.
І звініць на галіне крыштальнай
ільдзінкай сляза.



Не прычакаць табе майго ліста,
Навязвацца сваім каханнем грэбую.
Я лішняя, калі маўчыш ты з небам,
Душы з душою поруч цяжка стаць.

І пазваніць табе я не магу,
Асуджана на адзіноту вёснамі.
Я лішняя, калі гаворыш з соснамі,
Хаця з табою слухаю іх гул.

Я выбіраю на жыццё сяброў,
На дабрыню і на душэўнасць падкая.
Я лішняя, калі ты скуты згадкамі,
Нявер'ем абрастаеш, бы карой.

Мы тут — часова, вечнасць — у кахання.
Хоць не заву гады бядоцця марнымі.
Я лішняя, калі ты вольны марамі.
Дзе не была, туды няма вяртання.

* * *

Я — толькі ўсхліп,
Ты чуў яго скрозь вецер,
Ды голас мой зусім не пазнаваў.
Не заўважаў:
Цягнулася я вецем,
Вязалася, як ніцая трава.

Я — толькі плач,
Які ты чуў заўчора
Скрозь ціхі шэлест дробнага дажджу.
Акно чарнела, нібыта пячора,
І поўня з хмар
Надзела паранджу.

Я — толькі стогн...
Ты чуеш, чуеш зараз?
І думаеш: зімовы стогне сад.
А гэта мне
Усяго за тое ка́ра,
Што часта азіраюся назад.

* * *

Перахварэю смуткам і чаканнем,
Расчараваннем крозу раскрышу.
Разбураны высокі храм кахання,
Няма дзе апрастаць сваю душу.

* * *

Сатанее мой цвярозы розум,
Сам сябе няўмольна пакараў,
Адабраў надзеі ўсе і крозы,
Не дае адхлання сярод спраў.
Нешта лічыць, нешта адымае,
А душа натомлена маўчыць,
Толькі свет няўтольна абдымае
Пад пагрозай вечнае начы.



Даўно ўжо мне няма куды ўцякаць,
Няма куды схаваць гаркоту думак.
Трымаю лёс, як амфару ў руках,
Разглядваю з усмешкаю і сумам.

Што там, на дне? Дапіць ці пачакаць?
А голас глухне ў малітоўным тлуме.
Трымаю лёс, як амфару ў руках,
Разглядваю з усмешкаю і сумам.

## ПРЫМХЛІЦА

Ростань, морак, дуб пахілены...
Пастаю, паклічу долечку.
Раптам бачу: конь узмылены
Напрасткі ляціць на полечку.

Што мне коннік гаварыў —
Сэрцайка зайшлося,
Аж да самае зары
Спаць не давялося.

А праз дзень вяселле ў нас
Вёска ўся гуляла.
Жартам, як наспеў той час,
Спаць нас выпраўляла.

Побач любага плячо,
Зірк на жаніха я.
Гвалт! Са мной рагаты чорт,
Бельмамі міргае.

Сніцца д'ябал мне? Ці што?
Быў жа чалавекам.
Я крычаць. Ён у акно
І прапаў навекі.

Гэта добра, што ўцёк —
Так сабе мяркую.
Шмат я ведаю жанок,
З чортам век вякуюць.



На руінах дарэмна
Слёзы познія ліць,
Толькі памяць нядрэмна
Даўнім шчасцем баліць.
Я другая, не тая —
Для самой адкрыццё.
Я па кроплі знікаю.
Падаруй мне жыццё.

Дзе скрыжуецца хуткасць
Нашых дзён са святлом,
Яшчэ можна адхукаць
Цеплынёю крыло.
Яшчэ можна адолець
Немату, небыццё.
Уздыміся над доляй,
Падаруй мне жыццё.

Гэта горай ад рабства —
Існаваць, а не жыць.
У мінуласць вяртацца
З прадсмяротнай мяжы.
Страшна рушыцца цемра,
І мацнее выццё.
Не карай недаверам,
Падаруй мне жыццё.

## УДОВІНА ПЕСНЯ

Сыдуцца аблокі
Над гаем высокім,
Ссыплюць на бярозы
Залатыя росы,
Абтрасе іх з веццяз
У траву буй-вецер.
Росы пазбіраю,
Маладосць прыдбаю.
Ці мне ж, удавіцы,
Век адной журыцца?
З тою маладосцю
Выпраўлюся ў госці.
Падміргну хлапчыне,
Праз мяне загіне,
На другога гляну —
Нібы квет завяне,
А за трэцім пекным —
Сама хоць у пекла.



Час наш няўмольны,
Вольнасці вецер.
Слоў не запомніць,
Твар не прыкмеціць.

Смехам ды жартам —
Слоў завіруха.
Праўда, няпраўда,
А соладка слухаць.

Ах, спадарожнік,
Добрае сэрца.
Будзь асцярожней,
Як хочаш сагрэцца.

# ПАВОДЛЕ ІНДЫЙСКАГА ЭПАСУ

Бог над мужчынам шмат памудраваў
І сапсаваў мо тону белай гліны,
Ён лаяўся і злепкі разбіваў,
Але нарэшце вылепіў мужчыну.

Калі жанчыну ўзяўся Бог ствараць,
Агледзеўся, няма з чаго, дый годзе.
Зноў трэба гліну новую капаць,
Але не стаў ён рошчыну разводзіць.

А ўзяў вірлівасць веснавой вады,
Халодны снег, нястрымную спякоту,
Спеў радасці і горкі ўсхліп бяды,
Нектар пладоў і палыну гаркоту,

Алмазаў цвёрдасць з мяккасцю пяра,
Злосць тыгра, неадчэпны страх зайчыны,
Змяшаў усё, а як прыйшла пара,
Аддаў, што атрымалася, мужчыну.

Мужчына доўга дзіва разглядаў:
Прывабны стан, святло вачэй прыгожых...
Ён тайну бога з часам разглядаў,
Жанчыну зразумець дасюль не можа.

## КРАДЗЕЖ

Ці розных мне турбот было замала,
Ці мала мой маркоціўся пагляд,
Што ў глухамань цябе ад спраў украла,
Дзе песні лета выспелі ў палях.

Згаралі нашы вечары і ранкі,
А дзень расстання ўжо здалёк балеў.
Пілі нектар з адной крыштальнай шклянкі,
Але па-свойму кожны з нас хмялеў.

Тваёй пяшчоты, любы, не напіцца,
І я шапчу трывожнае: «Бывай!»
Няпісаны закон ёсць у злачынцаў —
Украдзенае тайна прадавай.

І стане вершам страчанае свята,
Яго набудзе дбайны выдавец.
Мой боль і смутак варты сціплай платы —
Такі спаткання нашага вянец.

Пасею смутак у асеннім лесе,
Світальнай песняй згадку патушу.
Адно бяда, што чорцік на Палессі
З табою ў змове ўкраў маю душу.

## МАЙМУ ПАЛЯЎНІЧАМУ

Не блукай па лесе
У чаканні цуду.
Як галінка трэсне,
Ночку спаць не буду.

Рэха ў рог затрубіць,
Дзень скароціць хмарка,
Выйдзе як на згубу
З-за сасны русалка,

Зачаруе слоўкам,
Ласкаю, усмешкай,
Завядзе далёка,
Зблытае ўсе сцежкі.

І дамоў не пусціць.
Я памру ў чаканні.
Не хадзіў бы ў пушчу
Без мяне, каханы.

## НЕНАВУКОВАЯ ІРОНІЯ

Радаводную чалавека
вывеў Дарвін ад таго дрэва,
на якім пасвіўся статак малпаў,
але ён не здолеў прадбачыць,
што на тым дрэве
гняздзіліся крумкачы,
ад якіх пайшлі
ўсе чорныя дні чалавецтва.

## САМАІРОНІЯ

Такая небывалая вясна!
У буйнацвеце дзень і зеляніне.
Сваёй душы і то ўжо не пазнаць,
Баюся: цела ўзрушана пакіне.

Уздымецца ў нябёсы. І бывай!
Ні позіркам, ні думкай не супыніш.
Тады дарэмна вінаваціць май,
Шукаць ратунку ў страчаных святынях.

Мая душа сядзіць на ланцугу,
З маіх вачэй яе слязіны льюцца.
Я ў неба адпусціць яе магу,
Ды ці захоча зноў яна вярнуцца.

# ПАЗІЦЫЯ

Што звярынец, то дзяржава,
Хоць звярыны, а народ,
Кажуць: «Хочам ведаць права,
Каб у час даваць прыплод.
Мы не проста вам зверугі,
Маем гонар, маем злосць,
Добра ведаем папругу,
Але здзеку, людцы, досць.
Страус войтам у звярынцы,
Чуць не хоча той мальбы
І бурчыць з-за аканіцы:
«Ў нас таго не можа быць».

А звяры равуць штосілы:
«Столькі дзён маўчым дарма!
З мясам нешта зноў скруцілі!
Дзе той водар? Дзе той смак?
Зноў нітраты і нітраты —
Страшна страву браць у рот,
Уздымайся брат за брата,
Створым свой звярыны фронт.
Натрываліся даволі
Ганьбы, рабства і жалобы.
Страус крыкнуў: «Не дазволю!
Ў нас таго не можа быць!»
Мы сваю забылі мову,
Хто ж нас будзе паважаць?
І чаму навучым дзетак?

Самі ж мы ні мэ ні бэ.
Патрабуем новых клетак!
Войта новага — сабе!
Страус выламаў галіну.
«Пакаштуйце барацьбы!»
І пайшоў гуляць па спінах.
У нас таго не можа быць.

## МІКРАФОН

Ёсць нешта ў мікрафоне ад крыжа.
Зацалаваны, вось ён, на ўзвышэнні.
Падыдзеш да яго — ахопіць жах
І дробна закалоцяцца калені.

Чаго баяцца і чаго дрыжаць?
Вярзі лухту, але праўдападобна.
Цяпер не распінаюць на крыжах.
У нас народ пакладзісты і добры.

Ён спіць пад шэры лектарскі матыў,
Ён згодны з тым,
                    што вымудрыць начальства.
Яму заклала вушы ад лухты
І душы — ад пачварнага нахабства.

А мікрафон прад кожным шыю гне.
Ідзі вяшчай, абы было жаданне.
Служыць гатовы богу й сатане,
Яму такое выпала прызванне.

На праведнікаў сёння недарод.
Але стаіць усё ж адзін на сцэне.
Заслухаўся, задумаўся народ.
Прарокаў б'юць. А праведнікаў цэняць.

І маўчуны, што тайны бераглі,
Перад пагрозай страціць гэту службу,

Апошнім часам голас набылі.
І кожны пра сваё вяшчаюць дружна.

Ля мікрафона слоўная сяўба.
Адзінкі вырашаюць лёс мільёнаў.
Працоўны люд, пот выцершы з ілба,
Па шчасцю рушыў стройнаю калонай.



Мяне вучыў жыццю нямала вопыт.
Вучыць бяздарных — марна траціць час.
Тады зваліў з сябе ён гэты клопат,
І я цяжар адчула на плячах.

Цяпер жыву пад ім, нібы пад прэсам,
Ні вольна паглядзець, ані ўздыхнуць.
Надзея ўся на тэхніку прагрэсу,
Мо здолее дурноту пацягнуць.

* * *

Людзі ў чэргах... Маўклівасць і крык.
Па надзённае і да святыні.
І сябе ад тугі не акрыць
У агорклай жыццёвай пустыні.

Сем дзесяткаў гадоў адстаіш,—
Хоць была гэта жытка няміла,—
Атрымаеш ці зорку, ці крыж
На грудзях, а хутчэй на магіле..



Паэтэса, самотніца кволая,
Вочы мараю дальняй засмужаны,
Задыхаецца вольнаю воляю,
Нібы з клеткі, рвецца з замужжа.

Ні спагады нідзе ёй, ні помачы.
Нават Муза, вядзьмарка і здрадніца,
Не прыходзіць ні ўдзень, ні апоўначы.
А каму на яе паскардзіцца?

Толькі ўчора мілай сяброўкаю
Нашаптала радкі пра лета,
А цяпер не прыцягнеш вяроўкаю,
Закахалася недзе ў паэта.

І марнее натхненне абузаю,
Разумею першапрычыну:
Заручыцца сяброўствам з Музаю,
Нібы замуж пайсці за жанчыну.

* * *

Не Бог, а д'ябал, пэўна, зблізіў нас,
Як перамешваў жыцці, быццам цеста.
Няхай я сярод горада адна,
Ды мне з табою невыносна цесна.

Усе мае шляхі ты перакрыў,
Што без цябе ні даху, ні прытулку,
Няма куды падзецца, хоць памры,
Ды, кажуць, і ў труне бывае мулка.

* * *

Там з краю ў край цалюткі год
Сябе сам падслухоўвае народ,
Падглядвае, віжуе, дакладае,
Вось дзе ўжо беспрацоўных не бывае.



Рэнтгенолаг прасвеціць наскрозь,
Што нябачна звычайнаму воку,
І разгледзіць пад левым рабром
Тое, што мяне ўзносіць высока.

Не паверыць уласным вачам,
Будзе доўга маўчаць і ўзірацца
І напіша дыягназ: «Душа
Хоча з целам сваім развітацца».

Сабяруцца свяцілы навук,
Стануць мудра і нудна кумекаць:
«Адбіваюцца душы ад рук,
І няма супраць гэтага лекаў».

Дай ім ісціну, Бог, адшукаць.
Я ж падамся у вечар настылы.
Хто не мае патрэбы ў руках,
Той, напэўна, займеў сабе крылы.

## БІБЛЕЙСКІ СЮЖЭТ

Архангел Міхаіл і воінства святое
Вярхом на самалётах кружляе па-над светам.
Ад войнаў і нязгод няма нідзе застою.
Знямелі ў прадчуванні прарокі і паэты.

І чуюцца праклёны услед святой араве,
І плач, і спадзяванне на лепшы ўрэшце лёс.
Хоць воінства святое нябёсы і ўзарала,
Ды стуль пакуль не ўпалі ні жыта, ні авёс.

Узбуджана і дзіка крычаць штодзень вароны,
Збіраюць зграю ў вырай, рэкордны пералёт.
За мора, у пустыню, аж да Армагедона,
Дзе сам сябе загубіць наш чалавечы род.

А Гаўрыіл зацята ляціць з благою весткай,
Баляць душа і крылы, што бедаў не злічыць.
І Рафаіл заўзята збірае, сушыць кветкі,
Яшчэ ён спадзяецца кагосьці з нас лячыць.

Ніяк не зразумею сэнс гэтага кружэння.
Мы, ад святых да грэшных, заведзены не
ў лад.
І ўсе нашы памкненні, і ўсе нашы крушэнні
Найпершаю рассудзіць збалелая Зямля.

## ЛІРЫЧНЫ ЖАРТ

Не праклінаю долю,
Не грэбую дабром.
Кашу тугу на полі
З Багданам і Пятром.

Ці моўчкі ў вочы гляну,
Ці нешта гавару
Чарняваму Багдану,
Бяляваму Пятру.

Сышліся месяц з сонцам,
Нязмушана гарацъ.
Багдану кіну слоўца,
А песня — для Пятра.

Раса не ў час апала,
Ступіў касу бур'ян.
Калі Пятра чакала,
Пастукаўся Багдан.

Глядзела, пазнавала.
Зазнала ўдосталь страт.
Багдана цалавала,
А марыла — Пятра.

Шалее вецер п'яны,
Усё ў нас не ў пару.
Скажу слаўцо Багдану,
А думкі ўсе — Пятру.

Начаравалі злыдні.
Як лес, трава-дурман.
Няўзнак Пятро пакрыўдзіць,
Суніме боль Багдан.

З-за лесу хмарай чорнай
Ляцяць да нас снягі.
Зіма намеле ў жорнах
Сумётаў ды імгі.

Згніюць мае пракосы,
З-пад снегу не сабраць.
І пасівелі косы [1]
У Багдана і Пятра.

Мізэрнае калоссе
Схілілася суздром.
Мы ў полі долю косім
З Багданам і Пятром.

---

[1] Косы (*дыялект.*) — валасы.

## БОЖЫ СУД

### I

Зноў на Алімпе цесната,
Багоў налезла самазваных,
Як прусакоў, няма дзе стаць,
Стапталі мальвы і дзіванны.

Павыпівалі ўсё віно,
Хоць выдавай багам талоны.
А курацы! Свету не відно.
Афіна моршчыцца стамлёна.

Крычыць на хмары Апалон,
Дарма ў чарзе намарнаваўся,
Застаўся без нектару ён,
Праз гэта вельмі раззлаваўся.

Як Пасейдон ні бушаваў,
Вось у каго буйная сіла,
Ураз чаргу параскідаў,
А ўсё ж ялею не хапіла.

Сам Зеўс, хоць быў ён ветэран,
Меў спецпаёк, але заўважыў,
Што нельга іншым давяраць:
Перабяруць або абважаць.

Што за народ такі пайшоў?
Ні гонару няма, ні славы.

Як на Алімп з такой душой
Пралезлі, па якому праву?

Задумаў Зеўс наладзіць суд,
Каб грамадзянства ўсіх праверыць.
Няхай з сабою прынясуць
Багі патрэбныя паперы,

Даставяць сведкаў, і тады
Чакаюць вартага прысуду,
Хто бог ёсць чыстае вады,
Хто самазванец і прыблуда.

Пралаз на могілкі вяртаць
Без права выхаду з магілы.
За межы ўздумалі лятаць,
Па блату раздабыўшы крылы.

А тых, хто паспрабуе зноў
На неба ўзлезці без дазволу,
Скідаць уніз без лішніх слоў,
Каб не разводзілі крамолу.

У тых, каму замест багоў,
Скрозь ставяць помнікі і бюсты,
Забраць метал у кошт даўгоў,
Пакрасавалі й так затлуста.

Як хто не з'явіцца на суд,
Няхай пасля не наракае.
Завочна вынесем прысуд,
Як знойдзецца віна якая.

## II

Нарэшце судны дзень настаў.
Гермес разнёс паведамленне,
Гладыш з нектарам апрастаў
І сеў ля бацькавых каленяў.

Багоў сышлося не злічыць.
А Зеўс пад нос бурчыць сярдзіта:
«Не лікі боскія, лычы
Да трона пруць, як да карыта...»

Вось суддзі селі за сталы,
І распачаўся суд вялікі,
Тактоўна справу павялі,
Па строгасці, не для прыліку.

Вялося следства, сведкі йшлі,
Расказвалі, хто як стаў богам,
Паходжаннем з якой зямлі,
Не прапускаючы нічога.

Тут вылез нейкі капялюш,
Не цягне хоць на чалавека,
Крычыць: «Я бог, мяне не руш!
Я асушаў палі і рэкі!

Зямлі гару перавярнуў,
Узводзіў дамбы і плаціны,
Зірніце ўніз на Беларусь».
Зірнулі — ахнулі: пустыня.

Ён задаволены сабой,
Хоць сэрца кволіцца трывогай.
Сказалі суддзі: «Ты не бог!
У тартар — вось табе дарога!»

Другі звярнуўся: «Божы суд!
Пакутна я мільёны лёсаў
У памяці сваёй нясу.
Да вас паслаў іх, на нябёсы,

Праз голад, турмы і вайну.
Сплаціў даніну вам святую.
Як знойдзеце маю віну,
Рашэнне я апратэстую».

Сціх, задаволены сабой,
І смокча люльку, жмурыць вочы.
Сказалі суддзі: «Ты не бог,
У тартар марш — ва ўладу Ночы!»

Наступны ўсмешліва ідзе:
«Грахі мае ў імя народа.
Да камунізму вёў людзей,
Ды не давёў. І вельмі шкода...»

Замоўк. Свідруе скроні боль.
Трывае, твар стары, панылы.
Сказалі суддзі: «Ты не бог,
Ідзі па-добраму ў магілу».

Крутлявы трэці, бы юла,
Бажыўся: «Я нідзе, нічога,
Нікому... Словам, я не я,
Хоць ведалі мяне, як бога».

І сведка пра яго вядзе:
«Ды ён святы. Любой уладзе
Служыў, не схібіў анідзе,
Знаў, дзе лізнуць, а дзе пагладзіць.

А я пры ім, як верны раб,
Дзе падспяваю, дзе падвыю.
Пара прыспела паміраць —
І зноў мы разам нежывыя.

Нам немагчыма на кладах,
Задуха там, нудота, пранцы...»
Няўмольны голас быў суда:
«Марш па магілах, самазванцы!»

Бясконца постаці ішлі,
Згасала сонца, тухла поўня...
І колькі ж гнюсу на зямлі,
Што суд той доўжыцца і сёння.

# З ДАВЕРАМ

Схаваем звады, прыхарошым згоду,
Няхай прыветна выглядае Брэст,
І кожны дзень у нас —
вясёлы фэст,
Вандруюць іншаземныя народы.
Не паспявае ладзіць свой асфальт,
Чужога пылу не навымятацца,
Нам не да твару перад госцем фальш,
Умеем і ўсміхнуцца, і азвацца.

Дзяўчаты ў строях на палескі лад,
Па-беларуску вучаны двум словам,
Глядзяць на госця гожа і вяснова,
Не трэба прыгажосці пераклад.
Хлеб-соль і кветкі лучаць нашы дні.
Нібы кірмаш,
гудзе вакзал заўзята.
Па чалавецтву шмат у нас радні,
Як страшна не пазнаць у браце брата.

Хачу ці не, але зжыву тут век,
Да горада прапіскаю прыкута.
Галерны раб такія знаў пакуты,
А ўсё ж, сябры, я вольны чалавек.
Куды штодня душа мая ляціць?
Мне не паспець за ёю пехатою.
Яна даўно ў наступнасці мігціць,
А я дагэтуль у часах застою.

Дзень пачынаем з радыё, з газет.
Ёсць што чытаць, абмеркаваць прылюдна.
І набываюць горкі прысмак будні,
Калі мы судзім і сябе, і свет.
Як існаваць на стратах і крыві?
Нябожчыкам не зычылі спакою,
Знішчалі і калечылі жывых,
Бурылі храмы ўладнаю рукою.

Няведанне і вусны на замку —
Зарука сілы для былых і многіх.
Каб не пайсці этапам у астрогі,
Падумай перш, чым даць каму руку.
Сляпую памяць сталінскіх дзядкоў
Звон памінальны мімаволі будзіць.
Палезлі тайны чорныя з куткоў.
Што гэта, страх ці астма душыць грудзі?

Ім сніцца той парадак залаты,
Дзе люд маўчыць на здзекі і на голад.
Яны б утаймавалі хутка моладзь,
Зноў скарыстаўшы краты і драты.
Яны й цяпер яшчэ жывуць без бед
На персанальных пенсіях і леках,
Шануюць у мінуўшчыне сябе
І пагарджаюць простым чалавекам.

Даўно нас вучаць без эмоцый жыць.
Пасілееш, калі ты здольны вучань,
Свой горкі ўсхліп на людзях абязгучваць,

Спакойна спаць у смерці на мяжы,
Валодаць, як маёмасцю, жыццём.
Чаму ж такое глупства шэпчуць губы
Пра вернасць і святое пачуццё?
Нашто яно? Сябе хай кожны любіць.

Мужчыны — за свабодную любоў.
Аплочана. Ні просьбаў і ні грозьбаў.
Свабодны чалавек — прагрэсу носьбіт,
Нявольны век змагаецца з сабой.
Навошта немагчымае благаю,
Жаданы вобраз клічу з нематы.
Ён не кахае. Я адна кахаю
За ўсіх няверных, чэрствых і пустых.

Добраахвотна на пакуту йду,
Каб растварыцца ў дарагой асобе,
Але і гэта мне пакуль не собіць,
Не ведаю, на шчасце ці бяду.
Такі мой лёс — няпэўнасцю згарэць.
І я зусім не прагну паратунку.
Для павучання піша мой партрэт
Мастак рэалістычнага кірунку.

Хто там, на небе, лёсы нам плануе
Бяздарна, як затлумлены Дзяржплан,
Пакуль мярзотнік песціцца, як пан,
Пакуль махляр упэўнена пануе?
Выдаткі нашы Дзяржкамстат падлічыць.
Што сеялі, цяпер патрэбна жаць.

Тых лідэраў, што нас наперад клічуць,
Хацелася б мне вельмі паважаць.

Не знаю іх,
                    няма каму знаёміць,
Працуе прэса болей на ЦК,
Не піша журналісцкая рука,
Хто як кіруе ў горадзе, раёне.
І прагне інфармацыі народ.
На лекцыі надзіва вырас попыт.
Хапіла і памылак, і нягод,
Цяпер замежны пераймаем вопыт.

Стаіць нястачы чорнае таўро
Там, дзе недаравальна мы адсталі,
Мяне хвалюе мала цяжкі рок,
А больш цяжкія ў малацэ металы.
Здаецца, што атрутная ў жальбе
Плыве Зямля адна ў сусвеце гулкім,
Як карабель вядомы «Карын Б»,
І ёй ужо нідзе няма прытулку.

Судзі, Зямля, што здрадзілі табе,
Заткнулі вушы на твой плач, нябога,
Навыдумлялі Сатану і Бога,
Каб апраўдаць было хоць чым сябе.
І не абскардзіць аб'ектыўны суд,
Якім Зямля асудзіць чалавека.
Пашле дзіця — нямоглую калеку,
Атруціць і травінку, і расу.

А мы ўсё роўна прагнем дзёрзка жыць
На гэтым свеце і на тым, магчыма.
І ловім момант прагнымі вачыма —
Жыццё між пальцаў, як вада, бяжыць.
Зямною карай нам пасланы СНІД.
Каханую прылашчыш у пальчатках.
Нашчадак твой, праклЯўшы карані,
Мо не захоча пачынаць спачатку,

Ні быць, ні верыць, ні шукаць дабра,
Сабой зачыніць у наступнасць дзверы...
Не маеш веры, трэба жыць з даверам
На вусцішных і зменлівых вятрах.
Яшчэ няпроста праўду пазнаваць.
Адвучаны. Хлуснёй кармілі заўжды.
У слабавольных — кругам галава
Ад перажытых праўды і няпраўды.

Імкнуцца дні на ўлонні перамен,
І спадзяюся, што, нарэшце, лепшых.
Чытаю пастановы, нібы вершы,
І не баюся павышэння цэн
На слова, на адказнасць, на сумленнасць.
Інфляцыя ад выкрыцця дрыжыць,
Хаця рубель варочаецца лена
І шчодра абяцае міражы.

Кааператар смажыць шашлыкі
І перад канкурэнцыяй не млее,
А графаман марнее пад ялеем,

Чакаючы цудоўныя радкі.
Хаця па-свойму кожны з нас бядуе,
Мужнее нефармальны плебісцыт.
Дзіцячы фонд дзяцей сваіх гадуе,
І кнігалюбы дзеляць дэфіцыт...

Заплюшчу вочы, адплыву ў вясну,
Аблегчу сэрца нанач валідолам.
Успомню продкаў, што былі не з кволых,
Аддамся мроі, яснасці і сну.
Зніцее чарада маіх турбот:
Нарады, узгадненні і паперы.
Я сплю. Мяне ахоўвае любоў,
Калі не з верай, дык хаця б з даверам.

*1988 г.*



Цябе чытаю, нібы дэтэктыў,
Бо крывадушша ў зрэнках не схаваеш,
Здрадлівасцю сваёй сябе зжываеш,
Дарма развесіў полаг дабраты
І сееш зман у словах, парываннях,
Здавацца хочаш шчырым і святым,
Сяброўства прагнеш, ласкі і кахання...
Пусты, але чытэльны дэтэктыў...

# ЗМЕСТ

## 1



## 2



## 3



4

---

*

---



*Літаратурна-мастацкае выданне*

Дудзюк Зінаіда Іосіфаўна

**ТАК І НЕ**

*Вершы*


Рэдактар *Л. В. Дранько-Майсюк*
Мастак *М. Р. Казлоў*
Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*
Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*
Карэктар *Л. Т. Калюжная*




ІБ № 3903

Здадзена ў набор 18.06.92. Падп. да друку 13.01.93.
Фармат 60×90$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1.
Гарнітура літаратурная. Высокі друк.
Ум. друк. арк. 6,0. Ум. фарб.-адб. 6,13. Ул.-выд. арк. 4,14.
Тыраж 2450 экз. Зак. № 723.
Цана 20 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Ліцэнзія ЛВ № 3.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Друкарня імя Францыска Скарыны
выдавецтва «Навука і тэхніка».
220141, Мінск, вуліца Жодзінская, 18.

*

**Дудзюк З.**

Д 81 Так і не: Вершы.— Мн.: Маст. літ.— 1993.— 189 с.

ISBN 5-340-01135-6.

Спасцігнуць карэнні роднасці, зразумець, куды і як расце і галініцца дрэва чалавечае, спрабуе паэтэса ў новай кнізе вершаў.

Яе творчае крэда — стрыманасць, лаканічнасць, імкненне да важкасці слова.

Д $\frac{4702120202-043}{М 302(03)-93}$ 43—93

ББК 84Бел7